# ЗЬМЕСТ



---

**Часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ дасылаецца падпісчыкам ранейшага часопісу „Плуг“, а для азнаямленьня, з тым меркаваньнем, што яны дашлюць падпіску на часопіс з ліпеня м-ца, № 1 высылаецца ўсім школам, тэхнікумам, калгасам, align="right"рознага віду каапэрацыйным аб'яднаньням, саўгасам, хатам-чытальням, клюбам і інш. установам і арганізацыям.**

**Рэдакцыя.**


Друкарня „БДВ“. Заказ № 3140. 10.000 экз. Галоўлітбел № 2034.

# ШЛЯХІ КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС КАЛЯКТЫВІЗАЦЫІ, ВЫТВОРЧАГА С.-Г. КААПЭРАВАНЬНЯ І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ВЫДАНЬНЕ НАРКАМЗЕМУ, БЕЛКАЛГАССАЮЗУ І БЕЛСЕЛЬСАЮЗУ БССР

Выходзіць раз у месяц

№ 1 | Ліпень | 1929 г.

## Задачы, якія стаяць перад часопісам „Шляхі каляктывізацыі“.

Перш чым падыйсьці да задач, якія стаяць перад часопісам, трэба на хвіліну затрымаць увагу чытача на ролі, якую выконваў папярэдні часопіс „Плуг“, выданьня НКЗ і ці можа і надалей часопіс „Плуг“ заставацца такім, якім ён быў да гэтага часу. Тут трэба даць адказ, што жыцьцё значна ідзе ўперад і таму формы нашай працы павінны быць зьменены ў напрамку больш шпаркай сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

Часопіс „Плуг“ зарадзіўся ў час адбудоўчага пэрыяду, гэта значыць у той час, калі перад сельскай гаспадаркай стаяла задача аднавіць пасеўную плошчу, жывёлу, сродкі вытворчасьці да даваенных разьмераў. Часопіс „Плуг“ з гэтай задачай спраўляўся нядрэнна, накіроўваючы ўвагу сялянства на выкарыстаньне мясцовых магчымасьцяй. Але час адбудоўчы скончан. Пасеўная плошча, жывёла (каровы, авечкі, коні), простыя сродкі вытворчасьці (плуг, барана) адноўлены да даваенных разьмераў. Хаця, гаворачы аб даваенных разьмерах, трэба зрабіць адну заўвагу, што нашай мэтай ня было жыць і гаспадарыць так, як жылі і гаспадарылі ў даваенны час. Наша мэта—праз шырокую каляктывізацыю і вытворчае каапэраваньне, праз павышэньне сельска-гаспадарчых ведаў—дагнаць і перагнаць ува ўсіх адносінах капіталістычныя дзяржавы.

Наша задача заключаецца ў тым, каб пабудаваць сельскую гаспадарку на аснове высокай навукі і тэхнікі, каб працаваў не чалавек мускуламі, а машына. Наша задача заключаецца ў тым, каб пабудаваць буйныя сацыялістычныя фабрыкі земляробства. Наша задача заключаецца ў тым, каб даць магчымасьць кіраваць дзяржаваю жанчыне і вызваліць яе ад цяжкасьцяй хатняга жыцьця.

Я ўжо папярэдня адзначыў, што адбудоўчы пэрыяд скончан—мы ўвайшлі ў паласу сацыялістычнай і тэхнічнай перабудовы (рэканструкцыі) сельскай гаспадаркі. Таму былы часопіс ужо ня можа задаволіць тых запатрабаваньняў, якія да яго прад'яўляе сельская гаспадарка. Ён павінен быць перагледжаны ў бок прыстасаваньня да сучасных задач, якія патрабуюць, каб і назва і зьмест часопісу былі прыстасаваны да іх. Тады часопіс дапаможа хутчэйшаму выкананьню гэтых задач.

Падагульваючы вышэйсказанае, трэба зрабіць адзін вывад—„Плуг“ са сваёй задачай справіўся ў адбудоўны час,—але „Плуг“ ня можа

зараз справіцца з задачамі сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.

На грунце „Плуга“ трэба пабудаваць такі часопіс, які-б даў адказ селяніну, якім шляхам ён павінен ісьці да калектывізацыі, да эканамічнага і культурнага палепшаньня жыцьця. Калегія Народнага Камісарыяту Земляробства, якая разглядала пытаньне аб назьве часопісу, дала наступную—**„Шляхі калектывізацыі“**. Гэтая назва дае зусім яскравы напрамак тым сацыяльным зьменам, якія павінны адбыцца ў сельскай гаспадарцы. Але адна назва яшчэ ня вычэрпвае ўсяго таго, што зараз патрабуе жыцьцё. Тут трэба спыніцца на тым зьмесьце, які павінен быць у новым часопісу. Зьмест павінен адбіваць сабою шлях калектывізацыі сельскай гаспадаркі як праз вышэйшыя формы вытворчага аб'яднаньня арцелі, камуны, так і простыя вытворчыя аб'яднаньні—насеннаводныя, малочныя, садова-гародныя таварыствы. Задача часопісу заключаецца ў тым, каб згуртаваць увагу ўсяго бядняцка-серадняцкага сялянства вёскі на шляху сацыяльнай тэхнічнай рэвалюцыі ў сельскай гаспадарцы, заснаванай на электрычнай машыне, на трактары і г. д.

Разам з ажыцьцяўленьнем задачы сацыяльна-тэхнічнай, трэба ў часопісу адвесьці належнае месца пытаньню павышэньня сельска-гаспадарчых ведаў насельніцтва, бо тэхнічныя сацыяльныя зьмены сельскай гаспадаркі адразу праводзіць будзе цяжка, асабліва бяз значнага павышэньня культурнага ўзроўню наогул і сельска-гаспадарчага ў першую чаргу.

Ня менш важная задача часопісу заключаецца ў тым, каб у ім прымалі самы актыўны ўдзел чытачы. Усякая праца добра і найбольш лёгка ажыцьцяўляецца толькі тады, калі яе праводзіць калектыў; дасягнуць гэтага магчыма, зрабіўшы часопіс танным, зразумелымі проста напісанымі артыкуламі, каб у іх маглі разабрацца шырокія колы працоўных беднякоў, сераднякоў, калгасьнікаў, рабочых і работніц саўгасаў.

Часопіс павінен быць рупарам ва ўздыме, праз калектывізацыю, вытворчае каапэраваньне мас, вытворчых сіл сельскай гаспадаркі, каб там, дзе расьце адзін колас, расьлі два, там, дзе маецца адна карова, сьвіньня, стала дзьве—тры. Толькі так магчыма выканаць асноўны лёзунг партыі і ўлады—дагнаць і перагнаць капіталістычныя дзяржавы. А гэтых магчымасьцяй ва ўмовах БССР дастаткова. Узяць хоць-бы такі прыклад, як скарыстаньне попелу, торпу, вапны, палепшаньне сенажацяй, якія зарасьлі хмызьнякамі і г. д., што адразу дае магчымасьць палепшыць сельскую гаспадарку. Нарэшце, часопіс, мабілізуючы шырокія колы бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, павінен рашуча змагацца з кулацкімі элемэнтамі вёскі.

Пад'агульваючы, мне-б хацелася яшчэ раз падкрэсьліць, што толькі пры актыўным удзеле мас у працы нашага часопісу магчыма спадзявацца, што часопіс зьявіцца лепшым дапаможнікам у сацыяльна-тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі і **павядзе яе па тым шляху, які вызначан Камуністычнай партыяй і яе правадыром Леніным.**

**Гэты шлях—ёсьць шлях сацыялізму і камунізму.**

**К. Масюкоў.**

# Сацыялістычнае спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы.

Сацыялістычнае спаборніцтва не зьяўляецца канцэлярскай справай. Сацыялістычнае спаборніцтва ёсьць выраз дзелавое рэвалюцыйнае самакрытыкі мас, якая апіраецца на творчую ініцыятыву мільёнаў працоўных.

*І. Сталін.*

Сацыялістычнае спаборніцтва, якое шырока разгорнута паміж фабрыкамі і заводамі, ужо дало ў некаторых з іх пэўныя вынікі. Значна ўзрасла вытворчасьць працы, зьменшаны сабекошт матар'ялаў, якія там вырабляюцца, зьніжаецца колькасьць адкідаў, памяншаецца лік прагулаў і г. д. Наогул усё гэта вядзе да таго, што якасьць вырабу бязупынна паляпшаецца, а кошт паступова зьніжаецца. Адзначаюцца посьпехі ў працы і сярод часткі саўгасаў, калгасаў і розных іншых с.-г. аб'яднаньняў, якія зрабілі паміж сабою ўмовы аб сацыялістычным спаборніцтве.

Але трэба запытацца, ці ўсе памянёныя с.-г. прадпрыемствы сталі на шлях палепшаньня свае працы спосабам стварэньня ўмоў аб спаборніцтве? А потым другое пытаньне—ці не застануцца ў некаторых з іх умовы толькі напісанымі на паперы?

Тым, хто яшчэ не зрабіў умовы аб спаборніцтве, трэба зараз-жа, перад васеньняй сяўбой далучыцца да гэтай вялікай агульнай справы. Заўсёды знойдзецца па-суседству той, з кім можна зрабіць умову. Ня трэба думаць, што толькі, напрыклад, саўгас можа ўступаць у спаборніцтва з саўгасам, каляктыў з каляктывам і г. д. Тут ні форма гаспадаркі, ні велічыня яе ня маюць значэньня. Можа буйны каляктыў скласьці ўмову аб спаборніцтве з маленькай малочна-жывёлагадоўчай арцельлю, невялічкі пасёлак з вялікім саўгасам ці невялічкае мэліярацыйнае таварыства з буйнай вёскай. Нават паасобныя гаспадары, калі зробяць паміж сабою ўмову, знойдуць над чым працаваць, каб палепшыць свае гаспадаркі.

У далейшым, зрабіўшы ўмову, трэба імкнуцца, каб яна ня была пустым гукам. Папрацаваць-жа ў сельскай гаспадарцы ёсьць над чым. Узяць хоць-бы ўраджаі нашых палёў як у вёсках, так і саўгасах, калгасах і інш. Колькі трэба пакласьці працы ва ўсіх галінах гаспадаркі, каб дасягнуць таго ўраджаю, які атрымліваецца на суседніх дасьледчых станцыях. Ураджаі там атрымліваюцца ў паўтары, два і нават у тры разы большыя, чым у сялян, і, як сьведчаць іх даныя, каб атрымаць такія ўраджаі, ня трэба быць астраномам і ўмець лічыць зоркі на небе. Трэба толькі ўжыць хоць-бы ўсе тыя простыя мерапрыемствы, якія пералічаны для правядзеньня ў аграмінімуме, як абавязковыя.

Вось неўзабаве пачынаецца васеньняя сяўба. Перад гэтым часам як раней, так і цяпер ня бывае без таго, каб суседзі, сабраўшыся каля хаты, не пагаварылі аб тэрміну пасеву, не параіліся як здабыць гатунковага жыта, ці карысна яно і г. д. Тут справа аграўпаўнаважанага дапамагчы сялянам абгаварыць на агульным сходзе такое важнае пытаньне, як пасеў. У пасёлках, розных аб'яднаньнях, камунах, арцелях і с.-г. таварыствах гэта зусім лёгка зрабіць. Але пры жаданьні можна дабіцца абгаварэньня і складаньня ўмоў аб спаборніцтве і ў вёсках. Хто-ж з гаспадароў ня пойдзе на тое, каб палепшыць сваю гас-

падарку! Пры гэтым трэба толькі дакладна растлумачыць справу. У гэтым дапаможа аграном. А праз тое, што аграному ўсіх паселішч аб'ехаць перад часам сяўбы немагчыма, дык на дапамогу гаспадаром ідзе с.-г. друк, у тым ліку вось і гэты артыкул.

Справа зрабіць умовы аб сацыялістычным спаборніцтве калгасу ці саўгасу лягчэй таму, што яны больш карыстаюцца газэтамі, часопісамі і агранамічным абслугоўваньнем. Таму мэты спаборніцтва, спосабы ўтварэньня і выкананьня іх ім вядомы. Іншая справа з вёскамі і пасёлкамі. У некаторыя з іх аграном загляне раз у год, а газэты і часопісы ня ўсе сяляне прызвычаіліся выпісваць. Тут уся надзея на аграўпаўнаважанага. Ён павінен падштырхнуць сялянства (сваіх даручыцеляў вясьці пачэсную грамадзкую справу) на тое, каб уступілі ў спаборніцтва.

## Як арганізаваць спаборніцтва.

Чакаць далей ня трэба. Ячэйка, аграўпаўнаважаны, старшыня, сябра сельсавету, камсамолец, настаўнік, студэнт, або вучань школы, якія знаходзяцца ў адпачынку, ці хто іншы прапануе склікаць сход для абгаварэньня пытаньня аб спаборніцтве. Можа часам сход зьбіраецца і па іншых пытаньнях, дык можна далучыць да яго і гэтае важнае пытаньне.

Лепш было б, каб прамову аб спаборніцтве зрабіў аграном. Але калі гэтага дабіцца нельга, калі аграном ня можа зьявіцца, тады павінна быць падрыхтавана хоць кароткая прамова кім-небудзь, хто чуў, чытаў і ведае аб спаборніцтве. Але гэта мо' ў самых глухіх кутках ня ведаюць аб спаборніцтве, ды тыя, што ня цікавяцца сучаснасьцю. Дык вось—хто-небудзь робіць кароткую прамову аб мэтах і задачах спаборніцтва. Пытаньне потым абгаварваецца, як і ўсё, што ўводзіцца новае.

Можна быць упэўненым, што з боку кулацтва, калі гэта праводзіцца ў вёсцы ці пасёлку, не абыйдзецца без насьміханьня, кпінак, а часам і спробы зрыву сацыялістычнага спаборніцтва. З такімі выпадамі кулакоў трэ' рашуча змагацца.

Далей абгаварваюць: каго, якую вёску, пасёлак ці інш. выклікаць на спаборніцтва і прызначаюць час для агульнага аб'яднанага сходу, на якім і ўгаварыцца аб спаборніцтве. На аб'яднаны агульны сход аграном ці хто іншы з зямельных працаўнікоў заўсёды прыедзе, абы толькі было вядома аб гэтым у Раёне.

Можна спадзявацца, што ні вёска, ні с.-г. аб'яднаньне не адмовіцца сабрацца на агульны сход для абгаварэньня пытаньня аб спаборніцтве, калі толькі там няма кулацкага засільля. Жывучы гаспадаркай—хто адмовіцца ад захадаў да яе палепшаньня!

## Аб чым рабіць умовы па сацыялістычным спаборніцтве.

Адзначым галоўныя пытаньні, аб якіх трэба рабіць умовы. Прымаючы пад увагу тое, што зараз час васеньняй сяўбы, першым пунктам умовы карысна паставіць падрыхтоўку насеньня і далей па парадку:

1. Усё насеньне для азімага засеву павінна быць адсартавана. Пшаніца адсартавана і пратручана.
2. Найбольш засеяць гатунковым насеньнем.
3. Імкнуцца найбольш засеяць радкавым сяўнікам.
4. Усё поле бядняцкіх гаспадарак, асабліва бясконных, засеяць адначасова з усім паселішчам шляхам узаемадапамогі.

5. Найбольшы пасеў азімай (махнаткі) вікі.
6. Пракопваньне раўчукоў для стоку вады па ўсіх лагчынах.
7. Найбольшае ўжываньне штучных угнаеньняў.
8. Забарона пасьбы жывёлы ўвосень па руні.
9. Узворваньне на зяб пад яравыя пасевы.
10. Баранаваньне азімых увесну.

У кожнай мясцовасьці, у залежнасьці ад таго, што зьяўляецца больш важным, аб тым і робяцца ўмовы.

У далейшым, для працы ў наступным годзе аб спаборніцтве ўмаўляюцца ня толькі на восень, а і можна і на цэлае пяцігодзьдзе, трэба ставіць асноўным пунктам лушчэньне іржоньня зараз-жа па зжыну азімых. З веснавых прац—пашыраць заняты папар, пасеў лубіну, сэрадэлі, вікі і бульбы.

Трэ' ставіць пытаньне аб пашырэньні плошчы пад пасеў, аб замене гатунковым насеньнем збожжа, бульбы, караньплодаў і г. д.

Пытаньні іншых мерапрыемстваў, якія неабходна ставіць для выкананьня ў гэтую восень, будуць наступныя:

1) зьбіраньне попелу;
2) распрацоўка торфу на ўгнаеньне і загатоўка кампосту з яго;
3) загатоўка торфу на апал.

Паляпшэньне сенажацяй (зьнішчэньне куп'я, хмызьняку, асушка, падсеў травы на іх); гэты пункт можна ўжыць і для пасьвішчаў;

5) баранаваньне сенажацяй восеньню, дзе магчыма, ці ўвесну;

6) арганізаваньне розных таварыстваў (мэліорацыйныя, машынныя, малочныя, па агульнай апрацоўцы глебы і г. д.) і найбольшае ўцягненьне ў іх гаспадарак;

7) добра наладзіць працу каапэратыву і ўцягнуць усе гаспадаркі ў яго (продаж сваіх прадуктаў рабіць толькі праз каапэратыў, а таксама і купляць усё неабходнае для гаспадаркі);

8) палепшаньне шляхоў, у першую чаргу вуліцы супроць хаты і загуменьні; адрамантаваць масты, якія належаць да паселішча;

9) адно з галоўных—пасадка групавога саду;

10) абсадка будынкаў, вуліц і шляху дрэвамі;

11) не забыць, як адну з асеньніх прац, абсадку галінамі зімовых шляхоў.

Асобным аддзелам можна паставіць працу па палепшаньню жывёлагадоўлі. Бо палепшаньне гэтай галіны дасьць, поруч з належнай апрацоўкай глебы, магчымасьць вырашыць і пытаньне дасягненьня тых ураджаяў, якія атрымліваюцца дасьледчымі станцыямі. Вызначым коратка галоўныя з іх.

1. Кармленьне жывёлы сакавітымі кармамі (бульбай, караньплодамі).

2. Пабудова ямы для сіласаваньня кармоў і засіласаваньне ў гэтую-ж восень усяго бацьвіньня караньплодаў, капуснага лісту, бульбоўніку, атавы (калі дрэннае надвор'е ўвосень не дазваляе высушыць яе на сена).

3. Абавязкова ўцяпляць хлявы для жывёлы.

4. Зрабіць шкляныя вокны ў хлявох.

5. Наладзіць кармленьне жывёлы па нормах.

6. Даіць тры разы ў суткі з перапынкамі ў 7—8 гадзін даеньне ад даеньня (праз 12 гадзін можна даіць толькі пад канец дойнага пэрыяду).

7. Перайсьці на правільнае даеньне ўсімі пальцамі (так званае даеньне кулаком).

8. Чыстае ўтрыманьне жывёлы ў хляве.

9. Правільны догляд за маладняком і належны падбор яго для гадоўлі.

10. Кантрактацыя большага ліку сьвіней на бэконны адкорм.

Далей, трэба ставіць умовы: 1—аб большым распаўсюджваньні 3-яй пазыкі індустрыялізацыі і 2—аб сваячасовай выплаце с.-г. падатку.

З шэрагу пералічаных пытаньняў, выбіраюцца для спаборніцтва тыя, якія абодвы бакі, што ўмаўляюцца, лічаць больш патрэбнымі для ажыцьцяўленьня ў сваіх гаспадарках.

Лепей скласьці ўмову на меншы лік мерапрымемстваў, але каб яны былі выкананы. Пры гэтым не абмяжоўвацца толькі пералікам мерапрыемстваў, на якія складаюцца ўмовы на спаборніцтва, а трэба канкрэтна вызначыць, што неабходна выканаць абодвым бакам. Напрыклад: кожная гаспадарка пасёлку, або вёскі падрыхтуе і прывязе ўвосень столька-та (лік) вазоў торфу на падсьціл на ўгнаеньне і столька-та на апал.

Кожная гаспадарка зьбярэ столька-та кілёграмаў попелу на ўгнаеньне.

Кожная гаспадарка на столькіх-та квадратовых мэтрах, ці частцы гектара ўжыве вапнаваньне глебы і г. д.

*Зрабіўшы ўмову, трэба імкнуцца да выкананьня абумоўленьня мерапрыемстваў.*

Акрамя аграўпаўнаважанага, кожны сусед, калі гэта ў пасёлку ці вёсцы, або сябра аб‘яднаньня, калі гэта ў колгасе ці с.-г. таварыстве, падштурхвае свайго тарарыша, суседа напамінам аб умове і ўласным прыкладам выкананьня мерапрыемстваў, на якія зроблены ўмовы аб сацыялістычным спаборніцтве.

Аграном **С. Хоміч.**






# Шляхі калгаснага будаўніцтва на Беларусі.

*(З дакладу т. Сьмірнова на пашыраным прэзыдыуме савету Белкалгассаюзу).*

### Рост калгаснага руху.

Калгасны рух па БССР мае вялікія дасягненьні як у колькасных, так і ў якасных адносінах. Сялянства, гледзячы на прыклад лепшых калгасаў, імкнецца да колектывізацыі. У сувязі з гэтым паступова зьмяняецца сацыяльны склад калгасаў: калі ў першыя гады калгаснага руху ў калгасы ішлі, галоўным чынам, бедняки, зараз у складзе калгасаў ёсьць шмат серадняков. Ужо ёсьць выпадкі, калі ў справе арганізацыі калгасаў серадняк выпярэджвае бедняка.

Адначасова з узмацненьнем і пашырэньнем калгаснага руху, на вёсцы абвастраецца клясавая барацьба; шпарка праводзіцца мабілізацыя варожых калектывізацыі кулацкіх груп вёскі, ёсьць выпадкі арганізаванага наступленьня кулакоў на калгасы. А між тым—гэтая кулацкае наступленьне ў нас часта не сустракае адпаведнага адпору.

### Сельгас. каапэрацыя мала дапамагае калгасам.

У нас, у БССР яшчэ слаба наладжана абслугоўваньне калгасаў. Асабліва дрэнна абслугоўваюцца прасьцейшыя вытворчыя аб'яднаньні.

Вось чаму ў нас амаль што няма выпадкаў перарастаньня гэтых прасьцейшых аб'яднаньняў у больш складаныя формы каляктыўнага земляробства.

Дрэнна тое, што сыстэма сель. гас. коопэрацыі, ня гледзячы на канкрэтныя пастановы XV зьезду партыі, мала зрабіла для дапамогі калгаснаму руху. Яна не прыстасавалася да належнага абслугоўваньня калгасаў.

Па гэтаму XVI партканфэрэнцыя была прымушана паказаць шляхі рэарганізацыі сель. гас. коопэрацыі для больш лепшага абслугоўваньня калгаснага руху.

Да гэтага часу ва ўсім Савецкім Саюзе няма належнай дагаворнасьці паміж сыстэмамі спэцыяльных відаў сель. гас. коопэрацыі і агульнай сыстэмай сель. гас. коопэрацыі аб іх арганізацыйных адпраўленьнях, аб тым, хто каму і як павінен падпарадкавацца.

Дасканалае вырашэньне гэтых пытаньняў зрабіў ЦК УсеКП(б).

### Хлебазагатоўкі—галоўная задача.

Калгасы БССР павінны здаць дзяржаве ў гэтым годзе 12400 цэнтнэраў таварнага хлеба. Да 1/IX г. г. патрэбна здаць 6200 цэнтнераў і апошні хлеб—да 1/XI г. г.

Гэта—вялізарнейшая задача, якая высоўваецца перад калгасамі ў часе ўборачнай кампаніі. Калгасы павінны гэта добра зразумець.

Нам трэба сур'ёзна прапрацаваць гэтае пытаньне на падставе пастаноў Сэсіі Ўсесаюзнага Савету Калгасаў, трэба належным чынам арганізаваць справу хлебазагатовак у калгасах.

Для таго, каб ня было перапынку ў здачы калгасамі хлеба—трэба да пачатку ўборачнай кампаніі забясьпечыць нашы калгасы ўборачнымі і іншымі машынамі.

## Васеньняя пасеўная кампанія.

Другая важнейшая задача—гэта правядзеньне ў калгасах асеньняй пасеўнай кампаніі. Пры гэтым мы павінны зьвяртаць асаблівую ўвагу на ўзмацненьне нанава арганізаваных калгасаў.

Усе мерапрыемствы, як агрымінімум, павінны быць праведзены пад пунктам погляду павышэньня ўраджайнасьці ў калгасах.

Для гэтай мэты неабходна сваечасова прасунуць пляны асеньняй пасеўкампаніі ў раёны, да кожнага калгаса. Неабходна поўнасьцю на пачатку асеньняга сева забясьпечыць калгасы ўсімі неабходнымі сродкамі вытворчасьці—насеньнем, угнаеньнем, машынамі і прыладамі, а таксама, неабходнай цягавай сілай, для чаго неабходна адпусьціць калгасам належныя крэдыты.

Калгасы з свайго боку павінны ў час асеньняй пасеўкампаніі выканаць усе аграмерапрыемствы—зернаачыстку і пратручваньне насеньня на 100%, правесьці пасеў гатунковым насеньнем, радковай сявалкай, найлепшым чынам апрацаваў глебу, угнаіў яе мінэральным угнаеньнем, прымяняя раньні папар і г. д.

Адначасова нам патрэбна сур'ёзна заняцца пытаньнямі вытворчасьці, пытаньнямі аб тым, што і як трэба зрабіць у калгасе каб падвысіць ураджай і пашырыць пасеўную плошчу зімовага кліну.

## Арганізацыя буйных калгасаў.

Зараз і ў нас, у БССР, арганізоўваецца шэраг буйных калгасаў. Ужо ёсьць калгасы, у якія ўваходзяць сотні працоўных сялян, якія ахапляюць плошчы ад 1 да 2 тысяч гектар зямлі.

Галоўнае ня ў тым, каб арганізаваць калгас, а ў тым, каб арганізаваць вытворчасьць у гэтым калгасе, стварыць буйнае сельска-гаспадарчае прадпрыемства. Гэтым павінны заняцца зараз-жа ўсе нашы цэнтральныя ўстановы.

Справа ў тым, што з дробных каляктыўных гаспадарак няма дзяржаве ніякай карысьці. Трэба павесьці перабудову існуючых дробных калгасаў у больш буйныя шляхам злучэньня сумежных калгасаў у адзін, далучэньня да калгасаў наўкольных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і г. д.

Пытаньні арганізацыі буйных калгасаў—вельмі сур'ёзныя і неадкладныя пытаньні нашае калгаснае сыстэмы.

## Каапэрацыя павінна палепшыць абслугоўваньне калгасаў.

Грамадзка-коопэрацыйныя арганізацыі, напрыклад, спажывецкая кооперацыя, пакуль што нічога ня робяць у галіне абслугоўваньня калгасаў.

Спажывецкія таварыствы не падумалі аб тым, якім чынам забясьпечваць калгасы таварамі, асабліва дэфіцытнымі. Коопэрацыя ня мае ніякага пляну ў адносінах абслугоўваньня калгасаў.

Ніхто таксама дагэтуль ня цікавіўся пытаньнем скарыстаньня вольных працоўных рук калгасьнікаў. Так, саматужна-прамысловая коопэрацыя дагэтуль ня цікавілася гэтай справай. А між тым—зараз арганізоўваецца шмат калгасаў, якія забясьпечваюцца зямельнымі ўжыткамі па мінімальных нормах, у выніку чаго ў калгасах будзе шмат вольных рук.

Саматужна-прамысловая коопэрацыя павінна падрабязна прапрацаваць пытаньні аб арганізацыі ў калгасах шэрагу розных прадпрыемстваў.

Недастаткова абслугоўваюцца калгасы і спэцыяльнымі сель. гас. саюзамі. Вось як, напрыклад, абслугоўваліся Гомсадсаюзам калгасы Гомельшчыны: за апэрацыі па збыце яблык ён браў з калгасаў 15% камісіі, прычым ніякіх абавязкаў гэты саюз на сябе не ўскладаў. Ніякай агрыкультурнай працы па палепшаньні садовай гаспадаркі калгасаў—Гомсадсаюз не праводзіў. А між тым на калгасы быў ускладзен рад амаль што кабальных абавязкаў.

### Перадача гаспадарчых функцый калгассыстэме.

Зараз Саюзным урадам распрацован закон аб перадачы калгассыстэме апэрацыйна-гаспадарчых функцый (адпраўленьняў).

Да гэтага часу пад калгасны рух падводзіла матар'яльную падставу не калгассыстэма, а іншыя коопэрацыйныя арганізацыі. Гэта значна ўскладняла і пагаршала справу абслугоўваньня калгасаў.

Пытаньні арганізацыі буйных калгасаў, пытаньні гаспадарчай работы калгассыстэмы—усё гэта патрабуе перабудовы ўсяго апарату цэнтральнага і акруговых саюзаў калгасаў, каб яны змаглі ўзяць у свае рукі гаспадарчыя абавязкі.

### Падрыхтоўка калгасных кадраў.

У адносінах падрыхтоўкі калгасных кадраў у нас вялікі прабел. Існуючыя курсы па падрыхтоўцы калгасьнікаў далёка не задавальняюць усім запатрабаваньням.

Справа ў тым, што зараз цэлы шэраг працаўнікоў, што скончылі нашы навучальныя ўстановы, недастаткова падрыхтаваны для абслугоўваньня калгаснага руху на Беларусі.

У выніку гэтага—нашы калгасы ня маюць сталых кадраў кіраўнікоў.

Да апошняга часу нічога ня зроблена ў выкананьне пастаноў сэсіі савету Белкалгассаюзу аб вывучэньні паказальных калгасаў.

Зараз трэба яшчэ высунуць пытаньне аб навучальных калгасах, па прыкладзе калгасаў Сальскай акругі (паўночны Каўказ).

Трэба пераводзіць калгасы на зьдзельшчыну, дасканала вывучаючы і гэтую справу, садзейнічаючую падвышэньню вытворчасьці працы членаў калгасаў.

С. К-ў.

---

# Посьпехі каляктывізацыі ў БССР.

Каляктыўны рух у БССР, як і наогул у СССР, падзяляецца на два пэрыяды. Пэрыяды гэтыя яскрава адрозьніваюцца адзін ад другога. У першым пэрыядзе, які цягнуўся ад пачатку Кастрычнікавай Рэвалюцыі да 1927-28 году, калектывы арганізоўваліся амаль выключна на землях запаснага фонду, галоўным чынам у былых маёнтках, і разь-

мер калектывізацыі вызначаўся як наяўнасьцю гэтых зямель, так і ступеньню аказаньня калгасам агрыкультурнай і грашовай дапамогі з боку дзяржавы.

Правядзеньне ў жыцьцё пастаноў ЦВК і СНК СССР ад 16/III 27 г. і дырэктыў XV Партыйнага зьезду УсеКП(б) аб спрыяньні калектывізацыі сельскае гаспадаркі палажылі пачатак новаму пэрыяду ў калектыўным руху.

1927-28 год адзначаецца ў справе калектыўнага будаўніцтва вялізарным зрухам у бок шырокага разгортваньня калектывізацыі сельскае гаспадаркі на працоўных сялянскіх землях. Калі да 1927-28 году арганізоўвалася новых калгасаў у БССР кожны год толькі па некалькі адзінак, альбо дзесяткаў, дык за адзін гэты год арганізавалася іх больш усяе колькасьці калгасаў, разам узятых. Прычым, пераход дробных сялянскіх гаспадарак у калгасы адбываецца неаслабным тэмпам, і ў бягучым 1928-29 годзе толькі за адну першую палову яго была арганізована 570 новых калгасы, што складае 95 проц. гадавога плянавага заданьня (па пляну Белкаапсаюзу меркавалася арганізаваць за ўвесь год 360 калгасаў).

Зразумела, што ў летні пэрыяд, у часы землеўпарадкаваньня, калектывізацыя будзе разгортвацца з яшчэ большым тэмпам, чаму плянавыя меркаваньні да канца бягучага году будуць выкананы са значным павялічэньнем.

Дынаміку росту колькасьці калектыўных гаспадарак у БССР за апошнія гады паказвае наступная табліца:

| Віды калгасаў | 1926-27 | 1927-28 | 15/IV 1929 г. | У % да 1926-27 г. |
|---|---|---|---|---|
| Камуны . . . . . | 49 | 76 | 84 | 171 |
| С.-г. арцелі . . . . | 312 | 771 | 1073 | 344 |
| Т-вы па супольнай апрацоўцы зямлі . . . . | 79 | 147 | 180 | 228 |
| Разам . . | 440 | 994 | 1337 | 304 |

З табліцы відаць, што за апошнія паўтары гады агульная колькасьць калгасаў павялічылася больш чым у тры разы (304 проц.). Асабліва вялікі рост у БССР маюць с.-г. арцелі (344 проц.), якія складаюць на 15/IV-29 г. больш 80 проц. агульнае колькасьці ўсіх калгасаў.

Арганізацыя ў БССР пераважна с.-г. арцеляй, а не т-ваў па супольнай апрацоўцы зямлі, як у РСФСР ці УССР, тлумачыцца тым, што тут галоўнаю таварнаю галінаю сельскае гаспадаркі зьяўляецца не паляводзтва, а прадукцыйная жывёла, без абагульваньня якой немагчыма стала вясьці ў БССР правільнае калектыўнае гаспадаркі. Статут-жа арцелі вымагае ў больш поўнай меры абагульваць жывёлу, чым статут т-ва па супольнай апрацоўцы зямлі, чаму і адпавядае больш умовам БССР.

Галоўнейшым недахопам у справе арганізацыі новых калгасаў зьяўляецца дробнасьць іх. Хаця разьмер зямельнай плошчы калгасаў і старой сеткі невялічкі; ён складае ўсяго, у сярэднім, 132 гектары на кожны калгас, але-ж калгасы, арганізаваныя ў 1927-28 годзе, даюць

сярэднюю плошчу аднаго калгасу толькі ў 65 гект. Такі калгас прадстаўляе сабою звычайны хутар і зьяўляецца вельмі недастатковым для пабудовы рацыянальнай гаспадаркі машынізаванага калгасу.

У такім калгасе не карысна будзе ўжываць нават прасьцейшыя с.-г. машыны, як жняярка, касілка і іншае, ня кажучы ўжо аб снапавязалцы, складанай малацілцы, трактары і да іх падобн. больш складаных с.-г. машынах, такім машынам у дробнай гаспадарцы ня будзе месца. Арганізацыя дробных калгасаў, у мінулым годзе, тлумачыцца стыхійнасьцю працэсу разгорнутае калектывізацыі, а таксама недастатковай падрыхтованасьцю каапэрацыйных і зямельных органаў для арганізацыйнага ахопу значна ўзросшага каляктыўнага руху.

Палепшаньне абслугоўваньня калгаснага руху ў першай палове бягучага году дало ўжо значныя выпікі. Так, сярэдняя плошча нанова арганізаваных калгасаў у апошнім паўгодзьдзі складае ўжо 126 гект., што дае павялічэньне амаль на 100 проц., параўнальна з мінулым годам.

Акрамя таго, сталі наглядацца ўжо паасобныя выпадкі арганізацыі буйных калгасаў, да 1000 і больш гектараў кожны. Пачатак у гэтай справе паклалі Бабруйская і Магілеўская акругі, дзе ўжо ёсьць па некалькі буйных калгасаў. З іншых акруг можна адзначыць Мазырскую, Аршанскую і Гомельскую, якія таксама сталі ўжо на шлях арганізацыі буйных калгасаў. Усе астатнія акругі ў гэтым напрамку пакуль што яшчэ не разварушыліся.

Нельга тут не адзначыць і таго, што ў апошнія часы шмат дзе пайшлі ў калгасы цэлыя вёскі, а ў Магілеўскай акрузе ёсьць прыклад арганізацыі буйнага калгасу па плошчы больш 1000 гект. нават двума суседнімі вёскамі. Разам з тым вызначаліся ўжо шляхі ўзбуйненьня існуючых дробных калгасаў. Так, напрыклад, у Магілеўскай акрузе 5 дробных калгасаў злучыліся ў адзін і ў Бабруйскай акрузе арцель „Расьсьвет“ аб'ядналася з другою арцельлю і далучыла да сябе цэлы пасёлак 103 сябры, а арцель „Луч Камуны“ шляхам далучэньня суседняй вёскі ўзбуйнілася з 84 гектараў зямельнае плошчы да 700 гект. і г. д.

Акрамя непасрэднай арганізацыі ў БССР больш складаных відаў калгасаў, у апошнія часы наглядаюцца частыя выпадкі перарастаньня прасьцейшых відаў калгасаў у больш складаныя. Са справаздачаю Белкамсаюзу відаць, што ў 1927-28 годзе перарасло ў высшыя віды 18 калгасаў, з якіх 4 арцелі і 3 таварыствы перашлі ў камуны, а 11 таварыстваў у арцелі. Найбольш спрыяюць перарастаньню прасьцейшых відаў калгасаў у больш складаныя—гэта доўгатэрміновыя крэдыты, якія адпушчаюцца на абагуленую жывёлу, паляпшэньне кармовай базы калгасаў, а таксама ўзмацненьне арганізацыі інструктарскага абслугоўваньня іх.

Такім чынам, само жыцьцё паказвае, што насельніцтва вёскі ўжо ў дастатковай меры ўсьвядоміла карысьць пераходу ад сваіх дробных спажывецкіх гаспадарак да буйных калгасаў і што калектывізацыя сельскае гаспадаркі ёсьць жыцьцёвая справа, якая дасьць магчымасьць Савецкай уладзе хутка перабудаваць сельскую гаспадарку на новы, соцыялістычны лад, а разам з тым дапаможа вёсцы вылезьці з векавой цемры, аслабаніць бяднейшае сялянства ад нэндзы і голаду, а самае галоўнае—пазбавіць яго ад кулацкай эксплёатацыі.

Аграном Белкалгассаюзу **С. Туркін.**

# Формы і мэтады масавай калектывізацыі.

За апошні год праца па калектывізацыі сельскае гаспадаркі значна разгарнулася. Сетка калектыўных гаспадарак павялічана больш чым на 100 проц.; зямельная плошча па БССР, якая ахоплена калгасамі, складае каля 2 проц. да агульнае сельска-гаспадарчай зямельнай плошчы. Ня глядзячы на гэткі значны рост калгасаў, усё-ж трэба адзначыць, што ў параўнаньні з тымі задачамі, якія высунуты ўсебеларускім зьездам саветаў у галіне калектывізацыі і рэконструкцыі сельскае гаспадаркі, існуючы тэмп калектывізацыі недастатковы.

Згодна пастановы Ўсебеларускага Зьезду Саветаў, да канца пяцігодзьдзя пад калгасамі павінна быць ахоплена ня менш 16 проц. с.-г. зямельнае плошчы БССР. Высунутыя задачы ахопу пад калгасы 16 проц. зямлі выклікаюць неабходнасьць адшуканьня такіх шляхоў і мэтадаў аб'яднаньня сялянскіх гаспадарак і розных галін у іх, якія спрыялі-б больш хуткаму пераводу вёскі на рэйкі масавае калектывізацыі.

Да гэтага часу ў большасьці выпадкаў з вёскі ў 100—150 двароў выдзяляюцца 15—30 гаспадарак і арганізоўваюцца ў калгас. Выпадкаў-жа арганізацыі калгасу з цэлай вёскі маецца мала. Усё гэта сьведчыць аб тым, што ў справу калектывізацыі яшчэ ня ўцягнуты шырокія колы бядняцка-серадняцкага насельніцтва, а таксама і грамадзкасьць на мясцох. Шпаркае-ж правядзеньне калектывізацыі сельскае гаспадаркі, асабліва масавай, магчыма толькі з удзелам усіх устаноў, якія абслугоўваюць вёску, а таксама ўсёй грамадзкасьці і вясковага актыву. Шляхі масавай калектывізацыі ў асноўным павінны быць наступныя:

1. Разам з арганізацыяй складаных форм калгасаў—с.-г. камун і арцеляй разгарнуць і паглыбіць працу па арганізацыі менш складаных форм, у якіх ня ўсе сродкі вытворчасьці абагулены, а толькі паасобныя галіны гаспадаркі. У гэткіх аб'яднаньнях ня прыходзіцца рабіць поўную ломку гаспадаркі, што дасьць магчымасьць пераходзіць да калектыўнае формы земляробства ня толькі паасобным групам беднякоў, ці серадн якоў, але і цэлым вёскам і пасёлкам.

Пры ахопе калектывізацыяй цэлых вёсак ці пасёлкаў трэба ўсю організацыйную работу ў гэтых аб'яднаньнях праводзіць у такім напрамку, каб на першы час да ўзмацненьня калгаса (2—4 гады) жыльлёвыя будынкі засталіся на старым месцы, што дасьць магчымасьць накіраваць большую частку сродкаў замест пераносу і пабудовы будынкаў на набыцьцё прадукцыйнае жывёлы, с.-г. машын і інш. Асабліва лёгка можа быць вырашана гэтае пытаньне пры пераходзе пасёлкаў у калгас.

2. Неабходна таксама ўзяць рашучы курс на гнездавы мэтад калектывізацыі з тым, каб калектывізаваць цэлы с/с., асабліва ў тых, дзе зямельная плошча ўжо ахоплена калектывізацыяй да 30 проц., як напрыклад, Беразоўскі с/с Мазырскай акругі і інш. з тым, каб вызначыць гэтыя с/с паказальнымі, якія маглі-б служыць прыкладам для насельніцтва.

3. Уся праца земляўпарадкаваньня пасёлкаў павінна праходзіць у напрамку стварэньня буйных пасёлкаў, як мінімум у 50 проц. гаспадарак, прычым сядзіба ў гэтых пасёлках павінна быць так разьмешчана, каб яна бяз ломкі гаспадаркі спрыяла-б пераходу пасёлка на калектыўныя формы землякарыстаньня. Трэба стварыць такія пасёлкі, якія-б служылі для будучых калгасаў.

4. Нават у нашых беларускіх умовах трактар можа адыграць вялікую ролю ў пераводзе сялянскіх гаспадарак на рэйкі калектыві-

зацыі, для чаго НКЗБ Белсельсаюзу і Белкалгассаюзу і іншым зацікаўленым установам трэба зараз-жа заняцца пытаньнем арганізацыі ў калгасах ці саўгасах, каля якіх больш усяго сканцэнтраваны бядняцка-серадняцкія вёскі, машынна-трактарных калён, якія на дагаворных умовах апрацоўвалі-б землі сялянскіх гаспадарак, паступова пераводзячы іх у калгасы. У дагаворах з сялянамі павінны быць прадугледжаны:

а) зьнішчэньне меж індывідуальных зямельных надзелаў і аб'ядананьне апошніх у адзін суцэльны масыў,

б) увядзеньне шматпольля і правільнага севазвароту,

в) пераход да гатунковых пасеваў,

г) прыстасаваньне палепшаных агратэхнічных прыёмаў (ўзворка пад зяб, ачыстка насеньня, пратручваньне насеньня і г. д.) пад кіраўніцтвам аграномаў,

д) абагульваньне працэсаў вытворчасьці абслугоўваемых трактарнай калёнай. Арганізованы збыт праз сыстэму с.-г. каапэрацыі ўсіх таварных лішкаў і г. д.

5. Ва ўмовах Беларусі, дзе адной з таварных галін сельскае гаспадаркі зьяўляецца жывёлаводзтва, якое павінна заняць цэнтральнае месца ў прыбытку гаспадаркі, пытаньне масавай калектывізацыі магчыма быць таксама вырашана праз абагульваньне ў першую чаргу прадукцыйнага жывёлаводзтва, як таварную частку гаспадаркі, для чаго неабходна заняцца пытаньнем арганізацыі жывёлаводных гаспадарак. Пабудова жывёлаводных калгасаў у першую чаргу павінна пачацца ў раёнах з жывёлаводным ухілам, дзе ёсьць кармовая база і спрыяючыя ўмовы для яе разьвіцьця, а таксама там, дзе сялянства ахоплена сыстэмай малочнай каапэрацыі і маюцца добрыя вынікі сумеснага збыту малочнай прадукцыі праз сыстэму малочнай каапэрацыі. Сыстэма малочнай каапэрацыі ў гэтых мясцох павінна праводзіць усю сваю працу ў напрамку ня толькі збыту малочнай прадукцыі і снабжэньня канцэнтраванымі кармамі, як яна робіць да апошняга часу, але ў напрамку калектыўна-вытворчага аб'яднаньня сваіх пайнікаў шляхам пабудовы абагуленых хлявоў для жывёлы, закупкі вытворнікаў, вырошчваньня маладняка, пабудовы сілосных ям, закладкі штучных выпасаў на вызначаных для гэтае мэты абагуленых вучастках зямлі і г. д.

Арганізацыя жывёлаводных гаспадарак павінна пачацца з пабудовы абагуленага хлява, бракоўкі малочнага стада і поўнага абагульваньня жывёлы. У залежнасьці ад мясцовых умоў—налічча сыравіны—будаваць масласырзаводы для сумеснай перапрацоўкі сыравіны. Практычна стварэньне жывёлаводных гаспадарак павінна праводзіцца наступным чынам: група гаспадарак ці цэлы пасёлак, умовіўшыся аб пераходзе да абагуленьня жывёлаводзтва, заключаюць паміж сабой адпаведны дагавор, устанаўліваюць паявы ўзнос і прыступаюць да пабудовы абагуленага хлява для жывёлы, адначасова робяць бракоўку малочнага стада, абагульваюць жывёлу ў залежнасьці ад налічча кармовай базы, прыступаюць да ўкамплектаваньня малочнага стада. Кармы, якія маюцца ў сяброў жывёлаводнай гаспадаркі, прадаюцца апошняму па існуючым цэнам. Для жывёлаводных гаспадарак неабходна распрацаваць прыкладную інструкцыю ўнутранага распарадку, якая прадугледзела-б усе арганізацыйныя моманты.

6. Значную ролю ў справе масавай калектывізацыі павінны адыграць мэліарацыйныя т-вы, у якіх неабходна праводзіць працу, спрыяючую хутчэйшаму і лягчэйшаму пераходу іх у калгасы. У першую чаргу неабходна павесьці працу па поўнаму ахопу гэтымі аб'яднань-

нямі цэлых вёсак і пасёлкаў, каб потым паступова, праз іх вытворчае крэдытаваньне, абагульваючы сродкі вытворчасьці і працу, яны ствралі-б сапраўдную базу па пераходу ў каляктыўную гаспадарку.

Толькі пры такім вырашэньні пытаньня, калі будзем праводзіць у жыцьцё ўсе вышэйадзначаныя мэтады масавай каляктывізацыі, мы выканаем высунутыя перад намі задачы.

Аграном Белкалгассаюзу **М. Цынкоў**.

---

# Калгас „Ленінскі Шлях“.

Калгас „Ленінскі Шлях“ знаходзіцца ў Дубровіцкім сельсавеце, Клімавіцкага раёну, Магілеўскай акругі. Аб'яднае ён 145 сялянскіх гаспадарак дзьвёх вёсак—Дубровіцы 80 гасп., Папехінка 47 і 18 хутарскіх гаспадарак. Калгас арганізаваны ў пачатку красавіка м-ца. Агульная плошча калгаса каля 1820 гектараў. Канчаткова плошча па ўгодзьдзях не разьмяркована, чакае землеўпарадкаваньня. Канчатковае землеўпарадкаваньне затрымліваецца адсутнасьцю гідратэхніка, якога да гэтага часу ня было.

Затрымка землеўпарадкаваньня перашкаджала вясеньняй пасеўкампаніі: ня можна было ўстанавіць севазвароту, вызначыць плошчу пад пасеў, невядома колькі патрэбна было рыхтаваць насеньня, угна-



Жніво трактарам у калгасе.

еньняў і г. д. Але трэба лічыць, што з боку ўсіх установ і дырэктыўных органаў ёсьць досыць дапамогі гэтаму першаму ў БССР буйнаму калгасу, таму пытаньне наладжваньня справы ў ім будзе ў самым хуткім часе вырашана.

На першы час абагулена ўся плошча зямлі, будынкі і коні, якіх маецца 125 галоў. Коні добрыя, сытыя і не старыя. Маецца 3 жарабкі-вытворнікі.

Пакуль што коні за недахопам агульнай стайні, разьмешчаны ў гумнах, па 10—12 галоў, і за імі даглядае 1 конюх.

Ёсьць пастанова абагуліць рагатую жывёлу і сьвіней, але недахоп памяшканьня затрымлівае правядзеньне ў жыцьцё гэтай пастановы.

Трактары, якія ўжо даўно прызначаны для камуны, яшчэ ня прыбылі на месца, таму часова працуе трактар Клімавіцкага балотнага апорнага пункту. Але гэты трактар працуе кепска, бо няма запасных частак, апалу і добрага трактарыстага. Карысьці калгасу гэты няспраўны трактар даў мала.

Ня гледзячы на гэты недахоп, усё-ж цягавай сілай калгас забясьпечан. Пасеў і зьвязаныя з ім работы сваечасова выкананы. Пасеўматар'ялам калгас быў забясьпечан. Увесну засеяна яравых культур 265 гектараў. У гэтым м-цы прыбываюць яшчэ два трактары—адзін з іх падарунак шэфтаварыства.

У далейшым будзе арганізавана пры калгасе трактарная калёна ў 12 трактараў, якая будзе абслугоўваць ня толькі калгасы, а галоўным чынам патрэбы ў цягавай сіле акаляючага насельніцтва, якое жадае перайсьці на каляктыўную запашку.



На сялянскіх палёх у часе жніва.

Іншым с.-г. інвэнтаром калгас забясьпечан, але патрэбна будзе перайсьці на ворыва культурным плугам і пасевы рабіць выключна радковымі сяўнікамі. Сад мае 8 гектараў, а ўвосень мяркуецца закласьці яшчэ 20 гектараў.

Гародніцтва мае пакуль што спажывецкі характар.

Калгас мае с-г. майстэрню, якая рамантуе ўласны інвэнтар і інвэнтар вакольнага насельніцтва; майстра-каваль свой калгасьнік.

Намечана пабудаваць у гэтым годзе смалакураны і цагельны заводы, кароўнік і стайню.

Крэдытаў атрымаў калгас 10.000 р.

Далейшаму разгортваньню мерапрыемстваў перашкаджае недахоп крэдытаў, якіх па каштарысу патрэбна на гэты год 71.000 р.

Прыняты ўнутраны распарадак, які спрыяе добрым мірным адносінам каляктывістых, вось вытрымка з яго: „мужчыны і жанчыны атрымліваюць аднолькавую плату за сваю працу. Непрацаздольныя дзеці да 12 год, старыкі і інваліды атрымліваюць 1/4 сярэдн. зараб. калгаспадара. Вучні ў часе навучаньня атрымліваюць таксама 1/4 зараб. дарослага. Навучаньне дзяцей членаў арцелі ў аб'ёме 7-годкі вытвараецца

за лік агульнага прыбытку гаспадаркі. Устаноўлен шэраг прэміраваньняў.

Пры арганізацыі калгаса сялян цікавіла пытаньне, як змогуць у такой колькасьці людзі добра, дружна працаваць і як будзе кіравацца гаспадарка. Але пастаўлены вопыт кіраваньня добра ўдаўся, няма ніякіх спрэчак; праца ідзе дружна, сумленна, з песьнямі. Дысцыпліна таксама добрая. Кожны разумее, што ён сам гаспадар у сваім каляктыве і прыганятых ня трэба.

Не забываецца і культасьветная праца. Ёсьць школа, адчынены 2 ясьляў, якія будуць працаваць круглы год. Сяляне вельмі ахвотна аддалі свае хаты на лета для ясьляў.



Малацьба трактарам у калгасе.

Аграном, які стала працуе ў калгасе, любіць сваю працу, адданы ёй і трэба чакаць, што дзякуючы добрай аградапамозе, калгас будзе лепшым і паказальным на Беларусі.

Каляктывістыя ўпэўнены, што „Ленінскі Шлях“ дасьць ім новы быт, лепшыя і культурныя ўмовы жыцьця.

Што ў калгасе няма ўпадачных настрояў, можна спаслацца на выпадак, які быў у калгасе. Мужык пасзарыўся з жонкай і пагразіў кінуць, яе, а яна яму ў адказ: „Кідай, на што ты мне такі, я калгасьніца, у мяне і без цябе будзе ўзарана, пасеяна і дзеці навучаны—жыві адзін“.

Вопыт у Беларусі па арганізацыі буйнага калгаса ўдаўся і можна быць пэўным, што насельніцтва, гледзячы на нашы посьпехі, захопіцца імі і ўсім саветам і нават раёнам пойдзе ў каляктыў.

Досыць працаваць сахой на кепскім кані ад цямна да цямна і ня мець ня толькі радасьці, але часамі і хлеба.

*Уперад да буйнай каляктыўнай гаспадаркі і культурнага жыцьця— па Ленінскаму шляху.*

**А. А.**

# Як працуе камуна „Зьвязда“

### Першыя крокі.

Камуна „Зьвязда“ (Пухавіцкага раёну, Менскай акр.) арганізавана ў 1921 годзе, у час разрухі і голаду. Яна атрымала 236,3 гектараў розных ужыткаў на тэрыторыі былога маёнтку „Шарамысьль“, разам з гэтым, шмат зусім няпрыгодных будынкаў.

Інвэнтару ў камуне ня было: камунарам прышлося зьбіраць па бліжэйшым саўгасам featureзнае халусьце. Чэрвенскае УЗУ дало камуне 2 старых каросьлівых коняй, якія не хацелі цягнуць плуга.

Доўгі час камунарам прыходзілася галадаць. Частка камунараў, напалоханая недахопамі і цяжкай працай, пакінула камуну. Праз некаторы час камуне далі ў часовае карыстаньне яшчэ некалькі коняй, 4 каровы 1 сьвіньню, 6 авечак і 5 вульляў пчол.

Пахаць камуны была вельмі запушчана, а глеба ў гаспадарцы наогул дрэнная, прыпадлівая. У сувязі з гэтым, пры адсутнасьці належнай колькасьці ўгнаеньняў і дробных прылад—у першыя гады камуна атрымлівала нізкія ўраджаі: па 15—18 пудоў збожжа з га.

Ішлі гады, у якія камуне прышлося вясьці цяжкую, упартую барацьбу за існаваньне, за ўраджай, за палепшаньне гаспадаркі.





Сябры камуны „Зьвязда“.

У 1925 г. камуна набывае ўласных 8 коняй, 18 дойных кароў, 17 галоў маладняка, а таксама 36-сільны нафтавы рухавік для млыну і трактар Фордзон.

З выданьнем закону 1927 году аб перадачы калгасам маючайся ў іх дзяржаўнай зямельнай маёмасьці ў працоўнае карыстаньне, камуна „Зьвязда“ пачала шпаркімі крокамі ісьці да свайго культурнага і гаспадарчага адраджэньня.

### Сучаснае становішча.

Зараз камуна „Зьвязда“ з разьбітай, зьнішчанай гаспадаркі, са старым, зборным халусьцем зрабіла моцную культурную гаспадарку. У сучасны момант у камуне 40 сяброў з агульнай колькасьцю ў 79 едакоў.

Камуна зьяўляецца членам Сельсаюзу, Сельбанку, Крэдытнага і Спажывецкага таварыстваў. Камуна мае наступныя тэхнічныя прадпрыёмствы: млын з нафтавым рухавіком, пладасушылку, сыраварны завод. Камуна мае добры с-г. інвэнтар, розныя складаныя с-г. машыны, трактар.

Малочны статак камуны павялічваецца колькасна і якасна. У камуне ёсьць культурны сьвінарнік з пародзістых белых ангельскіх сьвіней. Коні ў камунараў добрыя, сытыя, моцныя.

Камунары будуюць шэраг будынкаў і ў першую чаргу васьміkватэрны дом. Сталоўка камуны чыстая, сьветлая: там камунары атры-



Новая пабудова ў камуне „Зьвязда".



Агульны выгляд камуны „Зьвязда".

моўваюць здаровую, простую, сытую ежу ў чыстым алюмінавым начыньні. Дзеці камунараў знаходзяцца пад добрым даглядам у дзіцячых ясьлях, а гэта дае магчымасьць камунаркам спакойна працаваць на палёх гаспадаркі камуны. У зімовы час у камуне працуе с-г. гурток. Камуна мае сваю насьценгазэту, выпісвае розныя газэты і часопісы. Камунары ўдзельнічаюць у грамадзкім і палітычным жыцьці краіны. Партыйная і камсамольская ячэйкі праводзяць вялікую работу і кіруюць працай камуны.

## Паляводзтва і жывёлагадоўля.

У камуне 109,5 дзес. пахаці. Гаспадарка камуны вядзецца па вытворчаму пляну, які складаецца штогод. У гаспадарцы камуны ўведзен 8-мі палёвы севазварот: 1) папар лубінавы, 2) жыта, 3) бульба па гнаі, 4) ярына з падсевам канюшыны, 5) канюшына 1-га году карыстаньня, 6) канюшына 2-га году карыстаньня, 7) жыта і 8) авёс.

С-г. інвэнтар камуны каштуе 2.673 р. Умоўна чысты прыбытак ад паляводзтва камуна атрымала ў мінулым годзе на суму 7.064 р.

Камуна добра падрыхтавалася да вясеньняй пасеўкампаніі гэтага году. Яна была поўнасьцю забясьпечана сродкамі вытворчасьці. Яравы клін камуна павялічыла, у параўнаньні з мінулым годам, на 12,5% за

лік зямель, не скарыстаных у мінулыя гады. Пасеў бульбы і карань-плодаў павялічыўся на 39%, сеяных траў на 27,3%, лубіну на 166%, ярыны (збожжа) на 2%.

Авёс высяваўся гатунковы, адсартаваны і пратручаны.

У гэтую пасеўкампанію камуна закантрактавала 54 розных культур (у мінулым годзе яна нічога не кантрактавала). Сярэдні ўраджай збожжа культур у камуне за апошнія 2 гады каля 65 пуд. з дзес.



Сябры с.-г. арцелі імя Чарвякова за працай (Пухавіцкі раён).

Малочны статак камуны паступова павялічваецца. Калі ў камуне ў 1922 годзе было 6 уласных кароў, дык зараз іх ёсьць 34. Камуна мае мэтай павялічыць сваё стада ня менш, як да 50 галоў у самы бліжэйшы час.

Натуральныя сенажаці ў камуне вельмі дрэнныя (балота). У гаспадарцы мала грубых кармоў. Таму камуна прыступае да пабудовы цэмэнтаванай сілоснай ямы на 1000 пуд. сілосаваных кармоў.

Каровы камуны штогод павялічваюць удоі і якасьць малака. У той час, калі звычайная сялянская карова ў сярэднім дае малако з 3,5% тлушчу і ня звыш, каровы камуны ў сярэднім даюць малако 4,3% тлушчу. Статак камуны абслугоўваецца 2 уласнымі бугаямі-вытворнікамі.

Цягавая сіла ў камуне ў гэтым годзе складаецца, апрача трактара, з 10 коняй, у тым ліку 1 жарабец-вытворнік.



Статак камуны „Зьвязда“.

Сьвіны статак складаецца з 18 дарослых сьвіней, 1 борава-вытворніка, 3 падсьвінкаў і 31 парасяці. У гэтым годзе камуна закантрактавала і здала 18 падсьвінкаў і вырошчвае на бэкон яшчэ 20 парасят.

У камуне ёсьць конскі, бычачы і сьвіны злучныя пункты, якія штогод абслугоўваюць наўкольнае насельніцтва ў час злучнай кампаніі.

### Садоўніцтва.

У камуне маецца каля 13 дзес. саду з 1872 пладовымі дрэвамі. За садам наглядаюць 2 садоўнікі, якія зьяўляюцца сябрамі камуны. Сад дастаўся камуне ў запушчаным выглядзе. У сувязі з добрым наглядам і падсадкай новых дрэў, сад камуны пачаў паступова амаладжвацца і даваць добры ўраджай фруктаў.

У гэтым годзе ў садзе, на ўсёй яго плошчы, была праведзена значная работа: апрача рыхленьня лунак, пабелкі, была праведзена абрэзка і прарэджваньне крон.



Валоскія авечкі ў камуне „Карла Лібкнэхта“ (Быхаўскі раён)

Для барацьбы са шкоднікамі па ўсіх дрэвах падвязаны лоўчыя паясы, а таксама праведзена апырскваньне саду.

Камуна залажыла ў 1926 годзе пладовы гадавальнік. Зараз маецца каля 2 насаджэньняў. У будучым годзе выхавальнік дасьць каля 4000 прышчэп. Усю прадукцыю саду камуна збывае праз сыстэму с.-г. каапэрацыі.

У мінулым годзе камуна пабудавала пладасушылку, якая прыносіць гаспадарцы добры прыбытак. Сушылка працавала ў мінулым годзе 40 дзён, з сутачнай вытворчасьцю ў сярэднім 8 цэнтнэраў. Сушылка давала прадукцыю высокай якасьці, якая збывалася Пладавінсаюзу ў Маскву і Ленінград, праз Белсельсаюз.

### Тэхнічныя прадпрыемствы.

Апрача пладасушылкі ў камуне працуюць млын і сырзавод. Пры млыне працуе крупадзёрка і цыркулярка. Млын абслугоўваецца 36-сільным нафтавым рухавіком. Сутачная вытворчасьць млыну—40 цэнтнэраў. У мінулым годзе млын працаваў 205 дзён, даў камуне каля 5000 руб. прыбытку. Млын і цыркулярка абслугоўваюць ня толькі патрэбы камуны, а і бліжэйшыя вёскі і пасёлкі, у радыусе да 5 вёрст вакол камуны.

Сырзавод быў пабудованы ў камуне ў канцы 1927 году. Сыраварам зьяўляецца член камуны, які прайшоў спэцыяльныя 3-х месячныя курсы. На сырзаводзе перапрацоўваецца малако ня толькі камуны, а таксама Марына-Горскага тэхнікуму і с.-г. арцеляў „Авангард“ і „Гарапашнік“. Наўкольнае сялянства дастаўляе на завод вельмі мала малака. Зараз штодня перапрацоўваецца на сырзаводзе 650 літраў малака.

Такім чынам сырзавод мае толькі 50% сваёй нармальнай нагрузкі.

На заводзе атрымоўваецца сыр высокай якасьці. У мінулым годзе партыя сыру камуны была накіравана, у якасьці экспортнага тавару, за межы БССР—у Нямеччыну.

За малочныя прадукты камуна атрымала дыплём на ўсебеларускай выстаўцы.

### Дапамога вясковай беднаце.

Камуна, па магчымасьці, аказвае дапамогу сялянскай беднаце вакольных пасёлкаў і вёсак. Гэтая дапамога аказваецца праз абслугоўваньне насельніцтва вытворнікамі на злучных пунктах камуны. Так штогод вытворнікі пакрываюць да 50—70 матак (кароў, кабыл, сьвіней) па ільготных умовах, а для бяднейшага сялянства—дарма.

Апрача таго, зернаачышчальнымі машынамі камуны дарма сартавалася насеньне для некалькіх дзесяткаў сялянскіх гаспадарак. Таксама камуна штогод практыкуе аказваньне поўнай гаспадарчай дапамогі некалькім бядняцкім гаспадаркам: сваімі сіламі, інвэнтаром, коньмі—узорваецца бядняцкае поле, засяваецца насеньнем, а потым зьбіраецца ўраджай.



Сьвіньні камуны „Зьвязда“.

Лішкі гатунковага і палепшанага насеньня камуна абменьвае і прадае для пасеву наўкольнаму насельніцтву.

З мэтай палепшаньня сялянскай сьвінагадоўлі—камуна адпускае пародзістых парасят на ільготных умовах для бядняцкага насельніцтва.

У кузьні камуны для беднаты дарма рамантуюцца плугі і бароны.

Камуна аказвае дапамогу беднаце і пацярпеўшым ад навальных няшчасьцяў (пажар, і інш.) тым, што дарма робіць ім памол. Штогод млын камуны дарма меле да 200—400 пуд. збожжа.

Усе гэтыя мерапрыемствы ствараюць спрыяючыя ўмовы для добраякасных адносін з боку бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі.

На жаль, да апошняга часу камуна не практыкавала адлічэньняў з прыбыткаў гаспадаркі ў фонд каапэраваньня беднаты.

### Недахопы камуны і як іх зьнішчыць.

Галоўны недахоп камуны—гэта арганізацыя працы на падставе працадня. У сувязі з гэтым камунары, ня гледзячы на тое, што працуюць па 10 і звыш гадзін у суткі—ня маюць належнай вытворчасьці працы камуна ўжывае наёмную працу і нясе лішнія выдаткі.

Ня гледзячы на тое, што дырэктыўныя органы і ўсесаюзны зьезд калгасаў яскрава адзначылі пераважнасьць зьдзельшчыны і пераходу на выпрацоўку па нормах, у камуне ёсьць нават у кіруючых органах асобы, якія ў правільным вучоце працы і разьмеркаваньні прадуктаў знаходзяць некамунальны прынцып (правіла).

У камуне ў падставу вытворчасьці працы паложана грамадзкае выхоўваньне (агітацыя, угаворы) і толькі ў апошні час пачалі практыкаваць прэміальную сыстэму для лепшых працаўнікоў-камунараў. Але гэтага мала. Камуне неабходна абавязкова перайсьці на зьдзельшчыну. Пры добрай пастаноўцы зьдзельшчыны будзе падвышацца ня толькі вытворчасьць працы, а таксама і яе якасьць. Зьдзельшчына паменшыць выдаткі камуны і павялічыць яе прыбытак.



Сыраварня ў камуне „Зьвязда".

Вялікі недахоп і тое, што ў камуне няма добрага арганізатара з аграномічнымі ведамі, які-б мог ажыцьцявіць пераход камуны на работу па нормах.

Трэба адзначыць, як недахоп, што камуна яшчэ ўжывае сувязь з прыватнікам. Так 39% усёй куплі і 12,5% продажы камуны праходзіць праз прыватніка. Праўда, прыватнікам тут зьяўляецца сялянства, у якога камуна купляе малако, цэглу, кароў і коняй.

Ёсьць шэраг недахопаў і ў сельска-гаспадарчых адносінах. Так дрэнна абсталявана памяшканьне для жывёлы, няма пляну арганізацыі гаспадаркі і г. д.

Ня гледзячы на тое, што жанчыны складаюць амаль што палову камуны—яны слаба ўцягваюцца ў органы кіраўніцтва камуны. У мінулым і бягучым годзе ў лік 8 асоб, складаючых савет і рэўкамісію, уцягнуты толькі 2 жанчыны. Гэта вельмі недастаткова і адзначае, што ў камуне на пытаньне ўцягненьня жанчын у грамадзкую працу мала зьвяртаюць увагі. Неабходна гэты недахоп зьнішчыць. Трэ' павесьці выхаваўчую працу з жанчынамі, больш высоўваць жанчын-камунарак на грамадзкую працу, уцягваць жанчын у партыю.

Ня зусім добра з справай ліквідацыі няпісьменнасьці: да гэта часу ў камуне ёсьць 9 няпісьменных жанчын.

Неабходна паставіць пытаньне аб тым, каб арганізаваць культурныя гульні для моладзі камуны, а таксама і для дарослых камунараў.

С. К-ў.

# Год працы ў камуне „Молатава“.

Толькі адзін год прайшоў з таго часу, як арганізаваліся сяляне вёскі Лутна ў камуну, пад назваю „Молатава“. Адзін год супольнага жыцьця, супольнае дружнае працы даў больш, чым аднаму гаспадару дае 10 год.

Адзін яскравы факт сьведчыць аб карысьці і выгадзе сумеснае калектыўнае працы некалькіх гаспадарак. Гэты факт заключаецца ў тым, што гаспадары, якія зараз у камуне, летась гэткаю парою хадзілі ды прасілі ў кулака пудзік хлеба. А ў сёлетнім годзе гэтымі гаспадарамі ўжо здадзена ў каапэрацыю жыта 438 пудоў (ня кажучы аб іншай



Ясьлі ў камуне „Зьвязда“.

збажыне) і сабе хопіць да кастрычніка месяца. Разьмяркоўваецца хлеб па душах: рабочы атрымлівае 1 пуд 20 фун., поўрабочы 30 фун. і не рабочы 20 фун. Тлушч: сала, масла і малако таксама разьмяркоўваецца па колькасьці душ.

Камуна арганізавалася ў чэрвені месяцы 1928 г. з 19 гаспадарак, з 68 душ, на 184 гектарах пахаці і 10 гект. сенажатнай зямлі. Па сацыяльнаму складу ўвайшоўшыя гаспадаркі падзяляюцца на батракоў 9 чал., беднякоў 6 гасп., сераднякоў 2 гасп. і заможных 2 гаспадаркі.

Жывёлы маецца: рабочых коняй—15, жарабят—6, кароў—32 шт., цялят—7, сьвіней—44 і авечак—52 шт. Гаспадарчых прылад, ёсьць у дастатковай колькасьці (купляліі іх па магчымасьці): плугоў 11, з іх 2 двухлямешныя [дзіск][1]), 2 жняяркі, малатарня, барон 5 і 3 зігзагавых. Ёсьць культыватар і глебапаглыбіцель і шмат іншых дробных машын і прылад.

Апрацоўка зямлі робіцца часткаю сваімі коньмі, частка апрацована трактарам, які ўзяты быў у калгасе „Іскра“. Як апрацоўка, так і засеў

[1]) Ня выразна ў допісу—трэ' думаць што „рандаль“. (*Рэдакцыя*).

робіцца пад непасрэдным кіраўніцтвам агранома, які ад РВК прымацованы да камуны. Яшчэ ў мінулым годзе закладзена дасьледча-паказальнае поле з рознымі ўгнаеньнямі і бяз іх. З чаго відаць, што на адным і тым-жа полі, але ня роўна родзіць і расьце.

У гэтым годзе распачата пабудова вялікіх памяшканьняў для жыльля камунараў з агульнай сталовай і клюбам; таксама і некалькі хлявоў для скаціны. Пакуль што камунары зьмяшчаюцца ў трох хатах па некалькі сем'яў, дзе надта цесна. Але ўзаемаадносіны камунараў як жанчын, так і мужчын, добрыя—за год ня было ні адной сваркі ні калатні паміж сябрамі, ня гледзячы на тое, што і памяшканьне цеснае, і каля адной печы вечарам і раніцаю стаіць па 5 жанчын.

Вобразы ў першыя дні арганізацыі мелі мейсца ў некаторых старых жанчын, але зараз ніводнага няма. Культурная праца праводзіцца як з жанчынамі, так і з мужчынамі. Кожны свабодны час скарыстоўваецца для чыткі кніг і газэт, якіх у камуне маецца дастаткова. Ёсьць с.-г. бібліатэчка, у якой і антэрылігійнае літаратуры маецца ў колькасьці 70 штук. Газэт выпісваецца пяць экзэмпляраў: „Праўда", „Беднота", „Савецкая Беларусь", „Беларуская Вёска" і „Магілеўскі Селянін". З журналаў—„Плуг" і інш. Пры камуне ў гэтым годзе арганізаваны яські для дзяцей камунараў, якія даюць магчымасьць жанчынам яшчэ больш занімацца культурнаю працаю.

Пры камуне ёсьць і партыйная ячэйка ў ліку 5 чалавек, у якую ўваходзяць і партыйцы бліжэйшых вёсак.

Пэрспэктывы на пашырэньне ёсьць. На сёнешні дзень зноў увайшло ў камуну з вёскі Чорнае—15 гаспадарак і з вёскі Тросна—9 гаспадароў. Так што ўжо будзе не 19 гаспадарак, а 43 з колькасьцю зямлі ў 580 гектараў.

Поруч з камунаю „Молатава", наглядаючы на посьпехі працы ў ёй, арганізоўваецца новая камуна „Карла Маркса".

Сел. Г. Шумілаў.

---

# Як ідзе справа будаўніцтва калектываў.

*(Па выступленьнях у спрэчках удзельнікаў зьезду старшынь калгассаюзаў).*

### Тэмп калектывізацыі.

Зараз мы маем надзвычайны тэмп калектывізацыі: 6 месяцаў таму назад ніхто з нас ня ведаў, што калектывізацыяй будуць ахоплены такія вялікія сялянскія колы.

Сучасны тэмп пераганяе ня толькі нашы думкі, а і тое, што робіцца зараз у шэрагу каапэрацыйных і іншых устаноў, якія да апошняга часу ніяк ня могуць прыстасаваць сваю работу да гэтага тэмпу. Рост буйных калгасаў і наогул калгаснага будаўніцтва настолькі шпаркі, што мы не спраўляемся з іх абслугоўваньнем. Патрэбны калгасныя кадры, а іх няма, іх мала.

### Такіх нянек нам ня трэба.

У калгасаў вельмі многа нянек. А вядома, як кажа прыказка: у сямі нянек дзіця бяз носу. Таксама і з працай па збытаснабжэнчаскіх апэрацыях розных каапэрацыйных арганізацый.

Асабліва дрэнна справа з садовай каапэрацыяй. У калгасах Гомельшчыны будзе звыш 600 тысяч пудоў садавіны, а Гомсадсаюз зусім не падрыхтованы да гэтае справы. Садавіна можа пайсьці самацёкам і садовая каапэрацыя будзе надта скомпромэтавана. На гэтае зьявішча трэба сваечасова зьвярнуць увагу. Наглядаецца слабае абслугоўваньне калгасаў Акрсельсаюзамі. Усе крэдыты на гадоўлю маладняка жывёлы па Мазыршчыне пераданы с.-г. каапэрацыі, але апошняя нічога не зрабіла. Акрсельсаюзы зьяўляюцца лішняй інстанцыяй, тормазам пры заключэньні ўмоў калгассаюзамі з акргандлем на кантрактацыю калгасамі сьвіней на бэкон. Праца затрымліваецца тым, што дагавары прыходзілася заключаць праз Акрсельсаюз. У гэтай справе Калгассаюзам патрэбен свой апарат.

Па Аршаншчыне ёсьць прыклады, як нашы ўстановы ажыцьцяўляюць дырэктывы ў справе дапамогі калектывізацыі.

Так, Малжывёлсаюз мае шмат абавязкаў у адносінах калектыўных гаспадарак, але ня добра іх выконвае.

За апошнія 3 месяцы 85% усяго малака, якое праходзіць праз Саюз, зьяўляецца прадукцыяй Аршанскіх калгасаў. Плян па здачы малака калгасамі ў малочныя арцелі акругі выканан на 90%.

Між тым Малжывёлсаюз ня выконвае сваіх абавязкаў па забесьпячэньню калгасаў племматар'ялам. Нічога ня зроблена па кантрактацыі бычкоў для калгасаў.

У нас няма матар'ялу для кантрактацыі сьвіне на бэкон. Але для заводу пародзістых парасят—нічога ня зроблена.

Ня лепш і з спажывецкаапэрацыяй. Так, спажывецкія таварыствы ў Копыльскім раёне ня ведаюць установкі аб тым, як яны павінны каапэраваць і абслугоўваць калектыўныя гаспадаркі.

Спажыўтаварыствы адмаўляюцца забясьпечваць калгасы хлебам у Багушэўскім і Талачынскім раёнах. Яны кажуць: „восеньню вы здалі лішкі хлеба с.-г. каапэрацыі, так і зьвяртайцеся да яе, пушчай яна вас забясьпечвае хлебам...“

Пытаньне аб перадачы гаспадарчых функцый калгассыстэме—досыць назрэла, яго патрэбна вырашыць у бліжэйшы час.

Па Віцебшчыне ёсьць выпадкі, калі Сельсаюз запугвае калгасы, каб іх прымусіць заключыць нявыгадныя ўмовы на кантрактацыю. На гэтых умовах сельсаюз не бярэ на сябе ніякіх абавязкаў, а тыя калгасы, якія адмаўляюцца ад такіх дагавораў абзывае контр-рэвалюцыянэрамі.

Снабжэньне калгасаў—вельмі дрэннае. Калгасы атрымоўваюць часам сеялкі без калёс, плугі—без штальваг, замест адных частак машын—другія. Пры гэтакім мэтадзе снабжэньня—калектыўную гаспадарку не машынізіруеш.

## Палепшыць земляўпарадкаваньне калгасаў.

Чарговай задачай, разам з уборачнай кампаніяй, зьяўляецца тое, каб не распыльняючы нашых тэхнічных сіл, праводзіць земляўпарадкаваньне там, дзе будзе найбольшая карысьць. Усю гэту работу трэба згуртаваць вакол буйных калгасаў.

Ёсьць выпадкі ненармальных зьявішч. Так, напрыклад, у земляўпарадкаваемай вёсцы Серабранкі „Бабруйшчына“ тэхнік Акрза ўсім сялянам адбіў сядзібу. Працуючы ў вёсцы—ён ні разу ня быў у сумежных калгасах. Між тым, калі ў вёсцы паднялося пытаньне аб узбуйненьні калгасаў і за кошт насельніцтва вёскі, дык усю ўпарадкаўчую працу мінулага году прыйшлося закасаваць і пачаць працу нанава.

Некаторыя каморнікі кажуць, што ў іх інструкцыях няма мэтавай гаспадарчай устаноўкі, ня ўлічваецца ўхіл гаспадаркі.

Яшчэ зьявішча—пакуль не зацьверджан праект гаспадарчага ўпарадкаваньня,—калгас ня мае права прыступіць да карыстаньня зямлёй. Трэба гэта адмеціць.

**Перарастаньне калгасаў у вышэйшыя каляктыўныя формы.**

Перарастаньня прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў у больш складаныя формы калектыўнага земляробства ў нас на Беларусі амаль што няма. Чаму?—Таму, што на абслугоўваньне гэтых прасьцейшых аб'яднаньняў амаль што ніхто не зьвяртаў увагі. Вядома, што пры сталым абслугоўваньні будуць і добрыя вынікі.

Так да гэтага часу па Бабруйшчыне няма ніводнага калгаса, які-б стварыўся праз перарастаньне з машыннага, ці іншага таварыства. Прычына тая, што ў залежнасьці ад арганізацыйнага складу такіх таварыстваў, у іх няма ніякіх вытворчых функцый.

**Абслугоўваньне калгасаў.**

Па Магілеўскай акрузе частка новых калгасаў была ўцягнута і ўдзельнічала ў вясеньняй пасеўкампаніі. Дрэнна тое, што ў акрузе яшчэ мала калгасных працаўнікоў. Умовы для іх ня добрыя. Вось чаму ад нас так бягуць аграномы. Трэба завайстрыць пытаньне аб паляпшэньні іх становішча.

Па Бабруйшчыне да гэтага часу абслугоўваньне калгасаў недастатковае. Мы гастраліруем, праводзім кампанію за кампаніяй, але непасрэднай вытворчай працы ў нас яшчэ мала. На раёнах амаль што няма аграномаў-каапэратараў. Пасады гэтых аграномаў райвыканкомамі замяшчаюцца ў самую апошнюю чаргу. Калі акркалгассаюз зьвяртаецца ў Акрза—апошні кажа: у вас і так маецца 30% аграномаў усей акругі. Чаго вам трэба... Між тым—рост, сыстэма нас захапляюць. Ёсьць пагроза, што мы не замацуем тых вынікаў, якія на сёньня ўжо ёсьць.

Па Аршанскай акрузе яшчэ ніхто не абслугоўвае машынныя і мэліорацыйныя таварыствы. Акрза не перадае Калгассаюзу мэліоратара. А раз перадаецца сетка, патрэбна перадаць і абслугоўваючы гэтую сетку апарат.

Вылучаныя ў раёнах аграномы-каапэратары практычна нічога ня робяць у справе па калектывізацыі.

Слаба абслугоўваюцца калгасы Менскай акругі. Мэтодыка работы мала адпавядае справе пабудовы самадзейнасьці калгасьнікаў.

Па Віцебскай акрузе няма ніякай сувязі паміж калгассаюзам і аграномамі-каапэратарамі. Таксама няма аднолькавай формы справаздачы. У справаздачах, якія ёсьць у земворганаў і с.-г. каапэрацыі, не адбіваюцца пытаньні калектывізацыі зьместу. Вось чаму няма магчымасьці задавальняць цэнтральныя органы належнымі зьвесткамі. Ёсьць выпадкі адміністраваньня калгасаў. Калгасы адмініструюцца з боку РВК, сельсаветаў, якія ўмешваюцца ва ўнутранае жыцьцё калгасу, камандуюць калгасным трактарам і г. д. Кіраўнікі калгасаў, асабліва больш буйных, скарыстоўваюцца не па прызначэньню. Некаторыя старшыні калгасаў—партыйцы ў гэтую пасеўкампанію мелі магчымасьць быць у гаспадарцы калгасу ня больш 6—8 дзён. Наогул—ніхто ня кіруе справай індустрыялізацыі калгасаў.

### Таварныя лішкі хлеба—здамо дзяржаве.

Таварныя лішкі хлеба калгасы павінны здаць дзяржаве, прычым можна вызначыць тэрмін здачы. Але ёсьць пагроза, што паколькі няма ўборачных машын, мы спозьнімся з прыборкай хлеба і з асеньняй кампаніяй.

Здаваць трэба толькі таварныя лішкі хлеба. За гэтую справу павінны ўзяцца ўсе, хто павінен працаваць па хлебанарыхтоўках. Навакол здачы хлеба трэба завайстрыць увагу ўсёй грамадзкасьці.

Наогул, у справу па здачы хлебных лішкаў патрэбна ўнясьці яскравасьць. Калгасьнікам, апрача пасеўных мэт, патрэбна аставіць прадавольственную норму па 1—1 п. 10 ф. хлеба на кожнага едака ў месяц.

Здача хлеба калгасамі — гэта іх палітычны экзамен, экзамен для ўсёй калгассыстэмы.

Трэба склікаць нарады калгасьнікаў для абгаварэньня ўсіх пытаньняў аб здачы хлебных лішкаў дзяржаве.

У мінулым годзе шмат калгасаў, здаўшы хлеб, засталіся без тавараў. Каб гэтага ня было і ў бягучым годзе—трэба дагаварыцца з спажыўкаапэрацыяй па гэтаму пытаньню.

### Будаўніцтва і тэхпрадпрыемствы ў калгасах.

На сёньня ў Аршаншчыне па будаўніцтву мы амаль што нічога ня маем. Абслугоўваньне ў гэтым напрамку—вельмі дрэннае. Так, напрыклад, тэхнік Акрза прыпаднёс арцелі Войкава такі плян забудовы сядзібы: будаваць адзіналічныя будынкі з 20-ці сажоннымі разрывамі паміж кожнымі 2-мя будынкамі. Па пляну мяркуецца толькі 1 агульны будынак, які будзе пабудованы да таго моманту, калі пагніюць уласныя хаты. Вядома, што з такім падыходам мы прыдзем у калгас да сацыялізму толькі праз 50 год.

Па Полаччыне калгасы ў будаўніцтва ўкладваюць шмат грошай. Дрэнна тое, што кожны будуе так, як яму магчыма. Будаўніцтва—гэта балючае месца ў калгасах. Трэба арганізаваць належны тэхнагляд за будаўніцтвам у калгасах.

Тэмп разьвіцьця калгасаў значна залежыць ад разьвіцьця ў іх тэхпрадпрыемстваў па перапрацоўцы с.-г. сыравіны. Між тым, шэраг калгасаў не скарыстоўвае адпушчаемых прадуктаў на тэхпрадпрыемствы.

Пытаньне аб пабудове птушнікаў калгасцэнтр не ўвязаў з магчымасьцю забесьпячэньня племяннай птушкай. За адсутнасьцю гэтай птушкі зараз зрываецца праца па арганізацыі птушкаводзтва.

### Арганізацыя працы і яе аплаты ў калгасах.

Зараз фарсіраваць зьдзельшчыну па ўсіх калгасах Беларусі нельга. Патрэбна сталае вывучэньне гэтага пытаньня.

Цяпер складаюцца вытворчыя пляны калгасаў. Па гэтых плянах магчыма намеціць валавыя прыбыткі, а таксама прыкладны разьмер аплаты працы. Трэба па плянах вызначаць нормы аплаты. Правідловы разьмер заробнай платы вызначаць ад чыстага прыбытку гаспадаркі. У нормах выпрацоўкі няма нічога страшнага. Вядома, што ўсе нормы выпрацоўкі павінны быць прапрацованы на месцы, у калгасах. Добра, калі-б іх вывучыў Навукова-Дасьледчы Інстытут.

Трэба паставіць хронамэтраж, каб навукова вывучыць пытаньне аб працы ў калгасах. Усе затраты на гэту мэту акупляюцца ў самым хуткім часе.

Адлічэньні ў асноўны непадзелены капітал павінны праводзіцца толькі з чыстага прыбытку. Памылкова ставіць пытаньне так, каб адлічаць у непадзельны капітал як мага больш грошай, бо ёсьць выпадкі, калі пры гэтым урэзваецца заробная плата калгасьнікаў, якая часта бывае вельмі недастатковай.

**Больш увагі калектывізацыі.**

У некаторых частках Савецкага Саюзу зараз стаіць пытаньне аб калектывізацыі цэлых сельсаветаў і раёнаў. У бліжэйшы час урадам будзе распрацован кодэкс законаў калгаснага будаўніцтва.

У нас на Беларусі зараз таксама ствараецца магчымасьць калектывізацыі цэлых сельсаветаў. У Бярозаўскім сельсавеце, Мазырскай акругі ўжо калектывізавана звыш 30% сялянскіх гаспадарак; у Ручаёўскім сельсавеце, Гомельскай акругі пад калгасамі 42% усёй земплошчы сельсаветаў. У гэтыя сельсаветы трэба накіраваць трактарныя калёны па дзесятку трактараў у кожнай. Гэта паскорыць калектывізацыю памянёных сельсаветаў.

Калі-б мы былі больш забясьпечаны трактарамі — справа масавай калектывізацыі ішла-б больш хуткімі крокамі.

Нам трэба пераглядзець пытаньне аб трактаракарыстацелях і ў тых выпадках, калі трактары поўнасьцю не нагружаны, не скарыстоўваюцца, іх трэба перадаваць з такіх дробных гаспадарак у больш буйныя калгасы.

Трэба скласьці вытворчыя пляны па ўсіх калгасах з плошчай ад 120 гект. У гэтай справе НКЗ нам павінен дапамагчы сваімі аграномамі. У дробных калгасах магчыма абмежавацца прасьцейшымі плянамі, на падставе заявак.

Справа з сацыялістычным спаборніцтвам паміж калгасаў не ўва ўсіх акругах дастаткова разгарнулася. Гэтай справай мы яшчэ дрэнна кіруем. Трэба палепшыць справу спаборніцтва. Акруговыя спэцыялістыя таксама павінны ўступіць у спаборніцтва на лепшае складаньне вытворчых плянаў і г. д.

Намі яшчэ мала зьвернута ўвагі на нацыянальныя калгасы. Іх трэба больш лепш абслугоўваць.

---

# Як будзе праводзіцца падрыхтоўка кадраў па калгаснаму будаўніцтву.

Падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых і кіраўнікоў калгаснага руху—важнейшая задача сучаснага моманту. За гэтым паўстае пытаньне: як рыхтаваць гэтыя кадры, з каго, у якіх навучальных установах? Калектыўная гаспадарка мае шмат асаблівасьцяй, таму патрабуе ад кіраўнікоў, інструктароў і аграномаў, якія абслугоўваюць калгасы, у некалькі разоў больш спэцыяльных ведаў і дасканалага разуменьня справы, чым гэта мы бачым зараз на кожным кроку. Апрача таго, гэтая падрыхтоўка павінна быць масавай вучобай, падрыхтоўкай дзесяткаў соцень саміх сяброў калгасаў як кваліфікаваных рабочых, такі добрых майстроў у той ці іншай справе. Патрэбны яны для таго, каб будаваць гаспадарку па-новаму, каб з меншай затратай працы дабіцца больш шпаркім тэмпам лепшых вынікаў.

У сучасны момант справа падрыхтоўкі кадраў калгасаў вырашана далёка ня поўнасьцю. Аднак мы маем ужо некаторыя дасягненьні

ў гэтым напрамку. З наступнага году на БССР адчыняецца пры Горацкай С.-г. Акадэміі факультэт Калектыўнага Земляробства, які ў сваёй большасьці павінен укамплектоўвацца за кошт той калгаснай моладзі, якая мае адукацыю ня ніжэй сямігодкі і якая згаджаецца пасьля сканчэньня вучобы працаваць у калгаснай сыстэме. Мейсцы па факультэту разьмяркоўваюцца па акруговых калгассаюзах, якія лепш за ўсё ведаюць, каго з калгасьнікаў пасылаць і каго яшчэ ня можна па тых ці іншых прычынах. Такі-ж парадак будзе адносна камплектаваньня іншых факультэтаў С.-г. Акадэміі, на якія таксама браніруецца сталая колькасьць месц за калгасамі.

Для таго, каб лепш падрыхтаваць паступаючых, з наступнага году Наркамасьветы адчыняе падрыхтоўчыя курсы ў ВУЗ'ы, на якіх разам з рабочымі будуць вучыцца і калгасьнікі.

Ёсьць яшчэ адно дасягненьне—гэта адчыненьне з 1929-30 навучальнага году тэхнікуму калектыўнага земляробства, які таксама галоўным чынам павінен быць укамплектаваны з калгаснай моладзі. Гэты тэхнікум павінен рыхтаваць куставых працаўнікоў, кіраўнікоў буйных калгасаў і даваць рэзэрв для ўкамплектаваньня с.-г. вузаў. Умовы прыёму ў тэхнікум калектыўнага земляробства ў асноўным такія, як і ў іншыя тэхнікумы.

Калі ў тым ці іншым калгасе хлопец ці дзяўчына яшчэ досыць не падрыхтаваны, каб паступіць у тэхнікум, справа калгаса дапамагчы ім у гэтым, бо зараз рашучы курс на тое, каб, па-першае, у розныя школы пасылаць магчыма больш калгасьнікаў, але, па-другое, каб гэтая моладзь па сканчэньні тэй ці іншай с.-г. школы працавала там, дзе ёй скажа сам калгас, альбо кіруючыя органы калгаснай сыстэмы.

Кандыдатаў у тэхнікум пасылае акруговы саюз калгасаў, куды калгасам і трэба падаваць заявы. Што датычыцца астатніх тэхнікумаў (Мар'іна-Горскага і Барысаўскага) і школ сялянскай моладзі, дык у іх калгасьнікі таксама будуць прынімацца ўраўне з батракамі і беднякамі вёскі. Падаюць яны заявы такім-жа парадкам, як і ўсе жадаючыя паступаць, але вельмі добра было, каб і туды накіраваў для вучобы ня толькі бацька, альбо матка, але ўвесь калгас у цэлым, які, як гавораць цяпер, кантрактуе гэтага вучня, г. зн. дапамагае яму, але з той умовай, каб па сканчэньні тэхнікуму ці іншай школы вучань зварочваўся ў калгас і тут працаваў, дапамагаў лепш паставіць гаспадарку.

Апрача гэтых школ і шмат кароткатэрміновых курсаў, якія будуць праводзіцца па ўсіх акругах, у гэтым 1929-30 г. намечана да адчыненьня аднагадовыя школы для падрыхтоўкі кіраўнікоў і адна школа калгасвуча (па тыпу фабзавуча). Апошняя павінна знаходзіцца непасрэдна ў калгасе і не адрываючы моладзь ад гаспадаркі, навучыць яе кваліфіцыраваць свой труд. Ёсьць думка, што такія школы калгасам будуць вельмі каштоўнымі для падрыхтоўкі кваліфікаваных рабочых з моладзі і на будучае павінны быць шпарка распаўсюджаны.

Як бачыце, першыя крокі ў напрамку больш шпаркага тэмпу падрыхтоўкі кадраў ужо зроблены. Само сабой зразумела, што на гэтым праца не застановіцца. Усе калгасы павінны таксама рыхтавацца да вучобы і вывучыць сваіх лепшых сяброў, сваечасова пасылаць іх у школы, дапамагчы ім там, ведаючы, што толькі з вучонымі людзьмі, вышаўшымі з срады калгасаў і вясковай беднаты, хутчэй магчыма будзе рушыцца ўперад.

**А. Балтынь.**

---

# Заваёўваем новыя землі.

Спакон вякоў Беларусь уладала вялізарнымі плошчамі нікчэмных балот і забалочаных прастораў. Гэтыя плошчы пераходзілі ад бацькоў к сынам і ад сыноў к унукам. Служылі яны прытулкам для рознага зьвяр'я ды ўсялякай машкары, якія, акрамя шкоды, нічога насельніцтву ня прыносілі. У даўно мінулыя гады гэтымі плошчамі царскі ўрад ня цікавіўся, бо для яго хапала зямель. У бліжэйшыя, да нас гады, перад імпэрыялістычнай вайной, калі насельніцтва значна ўзрасло, на большай частцы Беларусі стаў адчувацца недахоп зямлі. Наступіўшы зямельны голад прымусіў селяніна шукаць вольных зямель у далёкай Сібіры, куды нашы беларусы пачалі перасяляцца сотнямі сем'яў. У той-жа час балотныя прасторы, тут-жа, поруч, заставаліся ў сваім дзікім выглядзе.



Расьцярэбліваньне лесу пад пахаць яўрэйскаю с.-г. арцельлю „Колас", Лупалаўскага рёну.

Такія няўважлівыя адносіны да балотных плошчаў былі, з аднаго боку, таму, што сялянства ня ведала, што балота, пры належнай яго асушцы, можна ператвараць у добрую сенажаць альбо пахаць. З другога боку, калі-б яно і ведала гэта, дык без дапамогі дзяржавы прывесьці яго ў культурны выгляд ня здолела-б таму, што на гэта патрэбны вялікія сродкі. Дзяржава-ж у гэтай справе (калі ня лічыць экспэдыцыі Жылінскага) тады амаль што нічога не дапамагла.

З прыходам-жа Савецкай улады паступова пачала варушыцца грамадзкая думка аб шырокім выкарыстаньні балотных прастораў.

Калі-ж дзе-ні-дзе і пападаліся невялікія плошчы асвоеных абшарніцкіх балот, дык гэта былі адзінічныя выпадкі, выкліканыя спэкуляцыйнымі меркаваньнямі абшарнікаў.

Было пастаўлена пытаньне аб такіх вялікіх укладаньнях дзяржаўных сродкаў у справу мэліорацыі, якія мы ўкладаем зараз, а таксама і аб масавым уцягненьні сюды самога насельніцтва. Цяпер мы маем больш 1000 мэліорацыйных таварыстваў.

Праўда, трэба адзначыць што ня ўсе гэтыя таварыствы добра працуюць. Некаторы процант іх толькі лічыцца таварыствам, а ў сапраўднасьці нічога таварыскага там і няма. Самое балота пабіта на шнуркі і кожны селянін капаецца ў сваёй палосцы і ніяк ня можа яе асушыць. А тут наступае тэрмін звароту пазыкі, грошай-жа на гэта няма адкуль узяць, таму што балота яшчэ ня сеяна і ніякага прыбытку не дало.

Але гэта адзінкі. Галоўная маса ідзе шпаркім, правільным шляхам, уся праца праводзіцца ня кожным паасобку, а каапэрацыйным аб‘яднаньнем.

Каб мець уяўленьне аб тэмпе работы, даволі паказаць на такія т-вы, як Кадуноўская, Сьмілавіцкага р., якое ў мінулым годзе асушыла, а ў гэтым залужае 37 гект. і Харэвіцкае ў мінулым годзе асушыла, а ў гэтым залужае 70 гект. А такія т-вы, як Смалявіцкае, Скуратоўскае, яўрэйская арцель „Новае Жыцьцё“ і дзесяткі іншых. У гэтым годзе яны маюць вялікія плошчы пасеяных траў, якія абяцаюць даць 300—400 пуд. добрага сена на гектар. Такія ўраджаі на мэліараваных сялянскіх балотах не навіна, у шэрагі т-ваў у мінулым годзе такія ўраджаі атрыманы.

Ня можна не адзначыць і таго, што, акрамя жаданьня выкарыстаць багацьце балот, зараз сялянства імкнецца да вывучэньня іх, шляхам закладкі досьледаў, каб пры меншых затратах сродкаў у выглядзе ўгнаеньняў і насеньня, атрымаць найбольшы ўраджай. У гэтай справе дапамагае сялянству балотная станцыя. У мінулым годзе ёй было пра-



Пабудова на мейсцы расьцяробах у арцелі „Колас“.

ведзена каля 50 досьледаў. У гэтым годзе станцыя мяркуе з дапамогаю раённых культуртэхнікаў закласьці больш 100 досьледаў па найбольш жыцьцёвых, важных для сялян, пытаньнях.

Акрамя таго, станцыя ўжо пачынае прынімаць экскурсію на сваіх дасьледчых палёх, з мэтаю азнаёміць насельніцтва з прыёмамі культуры балот.

Такім чынам мы бачым, што сялянства з кожным годам усё больш і больш заваёўвае дагэтуль нікчэмныя балоты і ператварае іх у багатыя палі і сенажаці. Гэтае заваёўваньне пойдзе яшчэ хутчэй, калі сялянства больш шчыльней зьвяжацца з Балотнай станцыяй. З другога боку і Балотная станцыя з арганізацыяй аддзелу прыстасаваньня, які зараз арганізуецца, зможа аб‘яднаць навакол сябе большую колькасьць мэліорацыйных таварystваў і накіроўваць іх працу на належны шлях.

Аграном **Дуброўскі.**

---

# Узмацніць увагу кантрактацыі жыта.

Пастановай ураду, увосень гэтага году належыць закантрактаваць па Беларусі 30.000 гектараў азімага жыта. Практыка праведзенай працы па кантрактацыі жыта мінулага году, бязумоўна, павінна быць улічана і нам неабходна астанавіцца на адмоўных баках апошняй, а таксама больш глыбока выкарыстаць вопыт толькі скончанай кантрактацыі яравых пасеваў.

Кантрактацыя жыта 1928 году праводзілася на плошчы 25.000 гектараў у 3-х найбольш таварных па гэтай культуры акругах—Бабруйскай, Менскай і Гомельскай. Плян выканан на 71,8 % і ўдзел асобных сацыяльных груп у кантрактацыі жыта вызначыўся: бедьякі—26,6 %, серадьякі—23 %, заможныя—2,2 %, групавыя—26,5 %, калгасы—8,8 % і без падразьдзяленьня—12,8 %.

Разьмер авансаў для ўсіх сацыяльных груп быў установлены ў 8 руб. на гектар, але разьмер здачы прадукцыі вызначан для беднякоў і калгасаў ня менш 200 %, а для астатніх груп ня менш 250 % атрыманага авансу.

Якія асноўныя недахопы праведзенай кантрактацыі мінулага году павінны быць заўважаны? Да арганізацыі працы па кантрактацыі прыступілі ў жніўні месяцы, незадоўга да пасеву азімых і гэта становішча, бязумоўна, адбілася на напрамку гэтай працы.

Растлумачальная кампанія амаль-што не праводзілася, насельніцтва папярэдня не знаёмілася з умовамі па кантрактацыі і ўся праца працякала самацёкам. Таварыства цікавілася колькасным выкананьнем пляну, мала зварочваючы ўвагі на якасны бок кантрактацыі як у сенсе надачы ёй вытворчага характару, так і аналізу гаспадарак з боку іх таварнасьці.

Падыход да кантрактацыі быў чыста-бюракратычны, на мясцох складаліся сьпісы, жадаючых кантрактаваць, і т-вы толькі афармлялі дагаворы, выдаючы грошы па гэтых сьпісах.

Райвыканкомы і Сельсаветы абмяжоўваліся пажаданьнямі і рэзалюцыямі, практычна не дапамагалі таварыствам.

У ўгнаеньні, асабліва супэрфосфаце, адчуваўся вельмі значны недахоп. Многія таварыствы заключалі дагавары з пасеўшчыкамі ўмоўна і ў выпадку неатрыманьня ўгнаеньня дагаворы касаваліся.

Калгасы недастаткова прымалі ўдзел у кантрактацыі і фактычныя таварныя лішкі ў гэтых гаспадарках не адпавядалі закантрактаванай плошчы.

Урэшце трэба адзначыць, што момант каляктывізацыі, арганізацыі звычайных вытворчых аб'яднаньняў, як сумесная апрацоўка глебы і інш.—зусім не атрымаў свайго разьвіцьця і наогул вытворчы характар кантрактацыі амаль-што не ажыцьцяўляўся.

Пры падыходзе да кантрактацыі гэтага году, трэба растлумачальнай кампаніі надаць надзвычайна сур'ёзны характар. Папярэдня да моманту правядзеньня сходаў і афармленьня пратаколаў па групавой кантрактацыі, кожны селянін павінен быць добра азнаёмлены з умовамі кантрактацыі. Прыходзячы на сход селянін ужо можа загадзя меркаваць, якую плошчу ён адводзіць пад жыта і колькі ён можа кантрактаваць.

Улічваючы, што ў гэтым годзе праводзіцца выключна групавая кантрактацыя жыта, неабходна вакол растлумачальнай кампаніі сканцэнтраваць па мясцох усю савецкую і партыйную грамадзкасьць. Каапэратыўны актыў, камсамольскія ячэйкі, К. С. У. і інш. арганізацыі павінны дапамагаць Т-вам у гэтай працы практычна, а ня толькі абмяжоўвацца пажаданьнямі.

Камсамольцам трэба падцягнуцца ня толькі ў сэнсе дапамогі таварыствам, але і самім кантрактаваць пасевы жыта. Той факт, што пры кантрактацыі яравых пасеваў амаль-што ні адна камсамольская гаспадарка не закантрактавала сваіх пасеваў, бязумоўна, трэба лічыць недапушчальным зьявішчам.

Райвыканкомы і Сельсаветы павінны распрацаваць сумесна з сельска-гаспадарчай каапэрацыяй падрабязны каляндарны плян правя-

дзеньня кантрактацыі і ні адна вёска, ні адно паселішча не павінны заставацца ў баку ад кантрактацыі. На гэту справу трэба вылучыць найбольш актыўных працаўнікоў, якія-б самі добра ведалі і ўсвоілі ўсе моманты кантрактацыі для растлумачэньня на мясцох. Практыка вясеньняй кантрактацыі паказала, што на месцы накіравалі ўпаўнаважаных, якія самі блудзілі ў асноўных пытаньнях, а таму іх тлумачэньні часта скрыўляліся і зусім не адпавядалі сапраўднасьці.

Калгасы павінны закантрактаваць усе свае таварныя лішкі жыта. Удзел калгасаў у кантрактацыі мінулага году зьяўляецца недапусьціма малым. На мясцох трэба зьвярнуць на гэта асаблівую ўвагу. Ніякіх хістаньняў з боку калгасаў у пытаньні кантрактацыі, як гэта мела месца ў вясеньнюю пасеўкампанію, не павінна больш наглядацца. Калгасам прадстаўляецца цэлы шэраг ільгот па снабжэньню сродкамі вытворчасьці і г. д., а таму яны павінны выконваць свой абавязак перад дзяржавай, кантрактуючы ў плянавым парадку свае пасевы.

Групавая кантрактацыя павінна ў гэту кампанію атрымаць поўнае ажыцьцяўленьне і добрым прыкладам для гэтай справы можа служыць кантрактацыя лёну па Віцебскай і Полацкай акругах, дзе групавая кантрактацыя прайшла амаль што на ўсе 100 %. Гэтаму пытаньню трэба прыдаць асабліва важнае значэньне, бо правядзеньне аграмерапрыемстваў, праверка выкананьня аграмінімуму і арганізацыя простых калектыўных аб'яднаньняў можа мець значную пасьпяховасьць толькі пры групавой кантрактацыі. Трэба імкнуцца, каб пры ёй мы мелі ня толькі групавы дагавор, але і групавы пасеў, сумесную апрацоўку глебы, сумесную апрацоўку ўраджая, ці, пэўней, такі напрамак, каб моманты каляктывізацыі праз кантрактацыю фактычна ажыцьцяўляліся. Вытворчы характар кантрактацыі павінен забясьпечвацца як арганізацыяй кантрактуючай, так і пасеўшчыкамі.

Завоз штучнага ўгнаеньня, машын і прыладаў належыць узгадняць поўнасьцю з плянам кантрактацыі, вакол аграмінімуму, прадугледжваемага дагаворам, неабходна сканцэнтраваць усю сялянскую грамадзкасьць і кожны пасяўшчык-кантрактатар абавязан своечасова выконваць агразапатрабаваньні. Раённаму аграпэрсаналу трэба зьвярнуць больш увагі аграмінімуму, чым у мінулую кантрактацыю, тым больш, што кантрактацыя будзе праводзіцца ў групавым парадку.

Урэшце неабходна падкрэсьліць, што вытворчы характар кантрактацыі можа і будзе забясьпечан толькі тады, калі ўсе мясцовыя арганізацыі, асабліва раённыя аграномы, прымуць належны ўдзел у гэтай працы і т-вы атрымаюць практычную падрыхтоўку не на словах, а на справе.

Аграном І. Левіт.

---

УВАГА. У № 6 часоп. „Плуг" подпіс пад артыкулам „Буйныя калгасы і іх арганізацыйная пабудова" надрукавана: інструктар Белкаапсаюзу, а трэба Белкалгассаюзу Цынкоў.

ПАЛЯВАЯ ГАСПАДАРКА

# Задачы васеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.

Папярэднія весткі аб праведзенай рабоце ў веснавую кампанію партыяй, савецкімі ворганамі і каапэрацыяй, сьведчаць, па-першае, аб тым, што лінія па каляктывізацыі і вытворчае каапэраваньне вёскі не зьяўляецца ўжо толькі агітацыяй, а ёсьць практычная работа ячэек сельсаветаў і каапэрацыйных арганізацый. Пры гэтым асноўная маса бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі ўсьвядоміла, што шлях эканамічнага і культурнага палепшаньня іх ёсьць адзіна правільны ў каляктывізацыі і вытворчым каапэраваньні. Таму мы маем масавыя зьявы па Віцебскай, Бабруйскай і іншых акругах Рэспублікі аб арганізацыі калгасаў з хутароў, якія былі створаны пры Сталыпіне і ў савецкія часы.

Другім ітогам гэтай кампаніі неабходна прызнаць рашучы ўсутыч падыход з боку значнай часткі мясцовых організацый па карэннай рэорганізацыі землеробства: шматпольле, аграмінімум, зерначыстка, зьбіраньне попелу і інш., з масавым уцягненьнем у гэту работу шырокіх бядняцка-серадняцкіх пластоў вёскі.

Трэцім ітогам у рабоце неабходна адзначыць організацыю бядняцкіх мас вёскі супроць кулака, які ў гэтую кампанію з асаблівай рашучасьцю выкарыстоўваў усе мэтоды і спосабы барацьбы супроць мерапрыемстваў партыі і савецкай улады. Досыць паказаць на тое, што для агітацыі супроць каляктывізацыі выкарыстоўваліся жабракі. У Лёзьнянскім раёне Віцебскай акругі агітацыя за неачыстку пасеўнага матар'ялу, рэкомэндацыя серадняком аб контррэвалюцыйнай адозьве калгасу (Менская акруга) і інш.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што кампанія бягучага году праходзіла пры рашучым наступленьні на кулака і што клясавы вораг шалеў не таму, што ён моцны, а таму, што бедната давала яму адпор.

Але супакойвацца на тым, што бедната давала рашучы адпор кулаку мы ні ў якой ступені не павінны і мы павінны ў сыстэме ўсіх мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ўважна сачыць за нашым клясавым ворагам.

І ўрэшце чацьвертым вывадам з праробленай работы ў веснавую кампанію неабходна зрабіць тое, што ёсьць арганізацыі, якія яшчэ недастаткова ўсутыч падыйшлі да зьдзяйсьненьня задач колектывізацыі і вытворчага каапэраваньня, уздыму ўраджайнасьці, па замацаваньню ўжо дасягнутых вынікаў; прычым, кажучы аб недахопах, досыць паказаць на такія факты, што слаба ўдзяляецца ўвага вытворчым відам каапэрацыі—насеннаводнай, малочнай; у веснавую кампанію насеннаводная кампанія ня была разгорнута. З аграўпаўнаважанымі не вядзецца работы і аграмінімум застаецца фармальна прынятым, а ў жыцьцё не праводзіцца; межы з пустазельлем не абкашваюцца, вада з палёў вясной ня спускаецца, попел ня зьбіраецца, павярхоўнае палепшаньне сенажацяй не праводзіцца і г. д.

Для таго, каб замацáваць дасягнутыя ў веснавую кампанію рэзультаты, зараз-жа трэба ўсяму партыйнаму і савецкаму каляктыву яшчэ з з большай рашучасьцю ўзяцца за правядзеньне мерапрыемстваў *па васеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.* Я падкрэсьліваю ня толькі пасеўнай, а сельска-гаспадарчай, таму што зьвесьці зараз усе задачы толькі да пасеўнай, зусім немагчыма, бо задачы, якія перад ёю стаяць, непасрэдна *ўкліньваюцца* і ў падрыхтоўку да веснавой кампаніі 1929—1930 г.

Асноўнымі задачамі, аб якіх ужо гаварылася ў дырэктывах ЦК партыі, зьяўляецца: далейшая арганізацыя і ўзбуйненьне існуючых калгасаў і вытворчых каапэратываў, рашучае супроцьстаўленьне ў сваёй рабоце бядняцка-серадняцкага сялянства—блёку кулака; пашырэньне пасеўнай плошчы на $1^1/_2$ проц., прычым у савецкіх гаспадарках на 2,6 проц., у калгасах з нанова арганізаванымі на 64,4 проц.; пашырэньне пасеўных плошчаў пад сартавымі пасевамі; павялічэньне ураджайнасьці ў саўгасах на 20 проц., калгасаў на 12 проц. і індывідуальных сялянскіх гаспадарках на 7 проц.; сваячасовая ўборка, абмалот, зернаачышчэньне і здача па кантрактацыі азімых, лушчэньне, зяблевае ворыва і павярхоўнае палепшаньне сенажацяй; закладка сілосных ям і да т. п.

З прыведзеных вышэй задач яскрава відаць, што васеньняя кампанія ня ёсьць пасеўная, а ёсьць работа разьлічаная на вызначаны пэрыяд гадоў, якая ўжо зараз стаіць у сьцıслай сувязі з наступнай веснавой кампаніяй. На асобных гэтых задачах неабходна спыніцца: пытаньне калгасаў і вытворчых каапэратываў павінны прыцягнуць увагу ўсіх партыйных, савецкіх і каапэрацыйных органаў, імкненьне як магалепей паставіць вытворчасьць сельскай гаспадаркі (уборка, зернаачыстка, падрыхтоўка кормаў, унутраны распарадак і г. д.). Дзе гэта неабходна—дапамагаць моральна і матар'яльна, дабіваючыся выкананьня задач, ускладзеных на калгасы партыяй і ўладай (кантрактацыя і здача закантрактаваных лішкаў хлеба і сыравіны).

Пытаньні ўборкі азіміны, зернаачышчэньне і пашырэньне пасеўных плошчаў пад чыстагатунковымі пасевамі павінны заняць галоўнае месца ў рабоце. Яны важны яшчэ і таму, што ўборка і пасеў у васеньнюю кампанію адзін ад другога знаходзяцца на вельмі блізкім па часу вытвару работы тэрміну. Таму трэ' каб уборачныя і зернаачышчальныя машыны былі сваячасна падрыхтаваны, адрамантаваны, там дзе іх няма, трэ' сачыць, каб яны былі прывезены, каб было каляндарнае расьпісаньне ў кожным сельсавеце, калі, у якое месца павінен прыбыць зернаачышчальны абоз. У аграўпаўнаважанага павінна быць чарга ачысткі пасеўматар'ялаў усімі дварамі. Трэба, каб зернаачышчальныя машыны працавалі ня менш, чым у дзьве зьмены, а ў патрэбных выпадках перавесьці на 3 зьмены. Зараз-жа трэ' азначыць у кожным калгасе, пасёлку і насенным таварыстве месца, дзе павінны быць засеяны чыстагатунковыя пасевы,—а таксама неабходна зьвязацца з арганізацыяй, ад якой гэтае насеньне будуць атрымліваць.

Пры зьдзяйсьненьні мерапрыемстваў па ўздыму ўраджайнасьці неабходна максымальна выкарыстаць мясцовыя ўгнаеньні—торф, вапну, попел з заводаў і фабрык.

Асабліва важнае значэньне набывае лушчэньне, узворваньне на зяб і павярхоўнае палепшаньне сенажацяй.

Тут неабходна ў першую чаргу зьвярнуць увагу на саўгасы і калгасы. Трэба з аднаго боку, каб яны сваім прыкладам паказалі бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, якую выгаду дае лушчэньне, зяблевае

ўзворваньне, і павярхоўнае паляпшэньне сенажацяй, а з другога боку, усе гэтыя мерапрыемствы павінны набыць асаблівую вастрату, паколькі задача разьвіцьця жывёлагадоўлі ўпіраецца ў кармовую базу, уздым урадлівасьці палёў, палепшаньне сенажацяй і закладку штучных выганаў.

Зусім новае мерапрыемства вызначаецца для правядзеньня ў бягучым годзе—гэта прырыхтоўка сіласаваных кармоў.Трэба, каб своечасова былі гэтыя ямы пабудаваны, каб у бліжэйшы час зямельныя і каапэрацыйныя органы нарыхтавалі экскурсіі на далейшыя станцыі і саўгасы, дзе ёсьць сілосныя ямы.

Для шырокага азнаемленьня калгасьнікаў і сялян са спосабамі прырыхтоўкі сілосаваных кармоў,—трэба каб аграномы павялі шырокую растлумачальную кампанію.

Далей, трэба ўцягнуць у сацыялістычнае спаборніцтва саўгасы, калгасы і паасобныя двары; прычым саўгасы і калгасы павінны дапамагчы сваім прыкладам удзельнічаць у спаборніцтве бядняцка-серадняцкім пластам вёскі. Трэ‘ старацца, каб ня было ніводнага двара, калгаса, саўгаса, якія не паставілі-б перад сабой зусім магчымыя і вызначаныя мерапрыемствы—форму сацыялістычнага спаборніцтва. Неабходна партыйным, зямельным, коопэрацыйным органам выкарыстаць, як лепшы сродак—мабілізацыю мас навокал задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, як прыладу барацьбы рабочае клясы і працоўнага сялянства з цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва.

У заключэньне неабходна сказаць, што пры дружнай энэргічнай рабоце мы з пастаўленай работай справімся. Тым-жа, што наводзяць паніку і што ныюць (з лягеру правых), мы пакажам на справе што генэральная лінія партыі аб сацыялістычнай рэканструкцыі ёсьць адзіны правільны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

**К. Масюкоў.**

---

# Шырэй скарыстаць залежы фасфарытаў.

*Фасфарытная мука—самае таннае штучнае ўгнаеньне. Фасфарытная мука на ўсіх глiністых і прыпадлівых глебах акупляе сябе першым пасевам.*

*Прыпадлівыя глебы, як малаўродлівыя, фасфарытная мука ператварае ў глебы з добрым ураджаем.*

Фасфарытная мука, як від штучнага і найбольш таннага ўгнаеньня, да гэтага часу не знайшла свайго шырокага ўжываньня ў практыцы сялянскіх гаспадарак. Вось чаму і патрэбна зараз спыніцца на важнейшых момантах значаньня фасфарытнай мукі ў сялянскай гаспадарцы.

Ужываньне фасфарытнай мукі з пункту погляду яе карыснасьці па водгукам дасьледчых установ і сялян-дасьледчыкаў дае станоўчыя вынікі. Таму ў наступную асеньнюю пасеўную кампанію патрэбна больш шырока паставіць пытаньне аб ужываньні фасфарытнай мукі пад азіміну і аб больш шырокай распрацоўцы залежаў фасфарыту.

Усе глебы нашай краіны адчуваюць вялікую патрэбу ў штучным фасфарытным угнаеньні, паколькі гэтага ўгнаеньня нашы глебы не даюць расьлінам у дастатковай колькасьці, а асабліва прыпадлівыя глебы. Аб прыпадлівых глебах сяляне адклікаюцца як аб малаўрод

лівых глебах, а ў больш мокрыя годы на іх усё вымякае і гіне. На гэтых глебах вэ ўродлівыя—лепшыя гады гаспадары атрымліваюць 20—25 пудоў жыта з дзесяціны.

Аб тым, што фасфарытная мука заслугоўвае больш увагі як угнаеньне, якое дае мажлівасьць падняць ураджай зернавых культур гаворацъ даныя ня толькі дасьледчых устаноў, але і вопыты сялян, дасьледчыкаў, якія праводзіліся Новазыбкаўскай с-г. дасьледчай Станцыяй. Яшчэ ў 1927 годзе ў чатырох валасьцёх Бранскай губэрні ў



Угноена фасфарытнай мукой. Без угнаеньня.

Від зімовага жыта пасьля красаваньня ў досьледзе селяніна-дасьледчыка, пасёлку Глубочка, Новазыбкаўскага раёну ў 1929 г. (на заднім пляне гаспадарчы сеў жыта па сьвежаму гною).

24 гаспадарках былі закладзены досьледы з фасфарытнай мукой пад азімае жыта. Па асобных валасьцях фасфарытная мука дала наступныя вынікі:

1) Бежыцкая воласьць, раён аграбазы „Сельцо". Дадзеныя вопыты 4-х гаспадарак у пудах з дзесяціны:

Па фасфарытнай муцэ 97 пудоў зярна, 196 пуд. саломы
Без фафсарытнай мукі 67 „ „ 140 „ „

Такім чынам відавочна павялічэньне ўраджаю на 30 пудоў зярна і 56 пудоў саломы.

Вынік досьледу з фасфарытнай мукой пад жыта дасьледчыка Васюкова Хлёркі на пяшчанай глебе наступны:

Па фасфарытнай муцэ 70 пудоў зярна, 144 пуд. саломы.
Без фасфарытнай мукі 42 „ „ 100 „ „

Маем павялічэньне на 28 пудоў зярна і 44 пуд. саломы.

2) Па Маклакоўскай воласьці з трох гаспадарак мы маем такія дадзеныя ад ужываньня фасфарытнай мукі пад жыта на дзесяціну:

З фасфарытнай мукой 43 пуд. зярна, 70 пуд. саломы
Без фасфарытнай мукі 35 „ „ 52 „ „

Селянін-дасьледчык гэтай-жа воласьці Ераменка атрымаў ураджай на глебе прыпадлівай з дзесяціны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| з фасфарытнай мукой | 45 пуд зярна, | 89 пуд саломы | |
| без " " | 25 " " | 40 " " | |
| Прыбаўка ад фасфарыту | 20 " " | 49 " " | |

Па 14 гаспадарках Судамірскай воласьці, Міздрынскага павету вопыты з фасфарытнай мукой на суглілістых глебах далі наступныя вынікі:

| | | |
|---|---|---|
| з фасфарытнай мукой | 73 пуды зярня, | 165 пуд. саломы |
| без " " | 52 " " | 128 " " |
| Павялічэньне ўраджаю на | 21 " " | 37 " " |

У Ўшчэрбскай воласьці, раёну аграбазы „Марьин Хутор" на 3-х гаспадарках вопыты з фасфарытнай мукой далі такі малюнак:

| | | |
|---|---|---|
| з фасфарытнай мукой | 100 пуд. зярна, | 178 пуд. саломы. |
| без " " | 59 " " | 142 " " |
| Прыбаўка ад фасфар. мукі | 41 " " | 36 " " |

Такім чынам, па даных сялян-дасьледчыкаў відаць, што фасфарытная мука, пасеяная пад зімовае жыта, у сярэднім дала прыбаўку на адну дзесяціну 38 пудоў зярна і 35 пудоў саломы.

У досьледах Нявецамскага Дасьледчага Поля фасфарытная мука ўносілася пад жыта на няўродлівай зямлі і давала да 50 процантаў прыросту ўраджаю.

Паколькі фасфарытная мука адносіцца да ўгнаеньня, якое ня хутка рашчыняецца ў глебе, то адсюль зразумела, што поўнае скарыстаньне першым пасевам фасфарытнай мукі ня можа быць. Такім чынам, фасфарытная мука можа дзейнічаць некалькі год (3—4 гады).

Самае галоўнае, на што павінна быць зьвернута ўвага, гэта тое: колькі і калі трэба ўносіць фасфарытную муку. *Фасфарытная мука ўносіцца пад жыта загадзя, г. зн. за 3—4 тыдні да сяўбы,* але можна і за 2 тыдні да сяўбы. Ніколі ня раіцца ўносіць у дзень сяўбы жыта.

Дзякуючы таму, што фасфарытная мука прадстаўляе сабой вельмі дробны парашок, як попел, то ўносіць трэба на поле (сеяць) у ціхую пагоду. Пасьля ўнясеньня абавязкова патрэбна заараць.

Колькасьць фасфарытнай мукі ўносіцца на дзесяціну розная. Калі фасфарыт, з якога атрымалася мука, мае 10% фосфарнай кіслаты, то ўносяць на дзесяціну 75—80 пудоў. Калі-ж фасфарыт мае 14—17% фосфарнай кіслаты, то ўносіцца на дзесяціну 45—50 пудоў.

Кошт аднаго пуда фасфарытнай мукі 26 кап.

Такім чынам час ужо уносіць фасфарытную муку. Час надта малы і адкладваць нельга.

*Не ўнясеш пад жыта фасфарытнай мукі—атрымаеш на 35—40 пудоў менш зярна!*

Аграном **Б. Бельчэнка.**

---

# Трактар—машына ня толькі экономічнага, але і тэхнічнага эфэкту.

Усе сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, у залежнасьці ад эфэкту, які яны даюць, падзяляюцца на дзьве групы:

1) машыны, якія падвышаюць інтэнсыўнасьць працы рабочых і падзешаўляюць кошт вытвару ці апрацоўкі адзінкі продуктаў—належаць да групы машын эканамічнага эфэкту, як, напрыклад, малатарні, машыны, прыстасаваныя для збору ўраджаю, розныя рухавікі.

2) машыны і прылады, якія падвышаюць якасьць працы і даюць тэхнічны эфэкт, да гэтай групы машын належаць сартыроўкі, удасканаленыя хлебаапрацоўваючыя прылады, радавыя сеялкі і інш.

Трактары, па характару дзейнасьці і па свайму прыстасаваньню, павінны залічацца да першай групы машын, але як рухавік для хлебаапрацоўчых прылад трактар зьяўляецца таксама і машынай тэхнічнага эфэкту, бо трактарная (і наогул мэханічная) апрацоўка глебы зьвязана з больш хуткім тэмпам працы (1,5 да 2,0 м. замест 0,7—1,0 м у сэкунду пры коннай апрацоўцы і глыбокім узорваньнем глебы) і магчымасьцю глыбей узорваць глебу, што спрыяльна адбіваецца на структуры глебы.

Ня трэ' даводзіць, што глыбокае ўзорваньне падвышае ўраджайнасьць; хуткі рух плуга (зразумела, у межах магчымага) дапамагае больш энэргічнаму разьмеркаваньню глебавых агрэгатаў (частак, з якіх складаецца глеба), іх успульхненьню, дае больш энэргічнае ўспульхненьне пласта і падвышае яго вышыню (найбольшае падвышэньне, да 75%, даюць глебаапрацоўчыя машыны з рухавымі рабочымі часткамі, адначасна ствараючы ідэальную структуру глебы).

Па даным заходня-эўрапэйскай практыкі мы маем цэлы шэраг сьведчаньняў аб падвышэньні ўраджайнасьці пры ўвядзеньні паравога ўзорваньня (трактарная апрацоўка глебы яшчэ ня мае ў заходняэўропэйскіх краінах гісторыі з дастатковым лікам гадоў); большасьць даных паказвае, што ўраджайнасьць падвышаецца на 10—20%, часамі дасягае 25—33%, а ў паасобных выпадках і вышэй.

Шэраг грунтоўных цыфравых даных адной саксонскай гаспадаркі сьведчыць, што ўраджайнасьць глебы некаторых культур, на працягу 6 год да ўвядзеньня паравога плуга, і на працягу 6 год пасьля яго ўвядзеньня, у сярэднім была такой (з моргена ў цэнтнэрах):

| | Да ўвядзеньня паравога ўзорваньня | Пасьля ўвядзеньня паравога ўзорваньня | Падвышэньне ўраджаю з моргена ў цэнтнэрах |
|---|---|---|---|
| Пшаніцы . . . . . | 11,8 | 15,7 | 3,9 |
| Аўса . . . . . . . | 11,0 | 14,2 | 3,2 |
| Жыта . . . . . . | 12,4 | 13,2 | 0,8 |
| Буракоў . . . . . | 120,3 | 144,2 | 23,9 |

Што добрая апрацоўка і, галоўным чынам, глыбіня ўзорваньня мае ўплыў на агульную ўраджайнасьць палёў, гэта відаць з наступных даных, нямецкай гаспадаркі „Zimbach“, у якой за пэрыод 1910—1918 г. г. глеба апрацоўвалася амаль што выключна конным плугам на глыбіню ў сярэднім да 20 см., з восені-ж 1918 г. была ўведзена маторная апрацоўка палёў (паравым плугам), глыбіня апрацоўкі глебы паступова павялічваецца і дасягае ў 1925 г.—30,5 см.

Ніжэй падаюцца даныя аб ураджаях некаторых расьлін у гэтай гаспадарцы (у Dz*) з гектару):

| | 1910—1918 г. г. | 1919—1924 г. г. | Павялічэньне ў %% |
|---|---|---|---|
| Пшаніца . . . . . | 26,9 | 32,8 | 22,0 |
| Жыта . . . . . . | 26,2 | 27,2 | 3,8 |
| Бульба . . . . . . | 122,7 | 231,5 | 89,0 |
| Канюшына . . . . | 178,3 | 193,8 | 8,7 |

*) Dz, падвойны цэнтнэр=100 кг=6,1 пуда.

Па аналёгіі можна думаць, і з поўнай, зразумела, упэўненасьцю, што большая скорасьць руху трактарных прылад пасьляплужнай апрацоўкі глебы, як, напрыклад, барон, культыватараў, дае таксама, у цэлым шэрагу выпадкаў (выпыленьне і разбурэньне структуры глебы, зразумела, выключаюцца), лепшы эфэкт, чымся аналёгічныя конныя прылады, ня кажучы ўжо аб тым, што трактарныя прылады, як больш масыўныя, даюць большую глыбіню ходу, што таксама мае вялікае значэньне; так, у конных дысковых культыватарах на 1 дыск і 1 дэц. захопу прыходзіцца нагрузка ∾ 15 кг, а ў трактарных культыватарах ∾ 25 кг. Зусім зразумела, што трактарны культыватар будзе ўзворваць глебу глыбей, а таму павялічыцца захоп кожнага дыска, а таксама павялічыцца і продукцыйнасьць яго работы.

Горы-Горкі.

Праф. **Н. Вэйс**.

# Сьцябловая сажа жыта.

У сёлетнім годзе даволі часта сустракаецца на жыце сьцябловая сажа—Urocystis Occulta (Wallr.) Rabh.

Звычайна гэты від сажы зьяўляецца як-бы выпадкова, ахоплівае некаторыя раёны і ў розныя гады мае розны процант пашкоджанасьці. Хістаньні бываюць ад доляй аднаго процанта і да 5—10%. Аднак найчасьцей пашырэньне гэтай сажы хістаецца каля 1%. У 1928 г. пад Менскам сустракаліся толькі паасобныя расьліны жыта, паражоныя сьцябловаю сажаю. У сёлетнім 1929 г. гэты грыбок, як відаць, мае куды большае пашырэньне. Назаву некалькі месц, дзе назіралася сажа.

| Вёска, саўгас | Раён, акруга | Плошча, дзе аглядалася жыта | % пашырэньня сажы |
|---|---|---|---|
| в. Рышкоўка . . | Быхаўскі, Магілеўская | паласа . . . | 10 |
| | „ „ | 2 паласы . . . | 5 |
| саўг. Грудзінаўка . | „ „ | усе засевы да . . . | 1 |
| в. Сідаравічы . . | Лупалаўскага р. . . | „ „ „ | 3 |
| саўгас Буйнічы . . | у Магілева . . . | „ „ „ | 1 |
| м-ка Калышкі . . | Лёзьнянск. р. Віцебск | „ „ „ | 2 |
| камуна 10-годзьдзя Кастрычніка . . | „ „ „ | „ „ „ | 1 |
| Аграпункт Ліпкі . . | Аршанскай акр. . | „ „ „ | 1 |
| в. в. Шпількі, Дземіла-вічы, Машніца, Гаёўка, Фэрма . . | Койданаўскага р. . | „ „ „ | 0,2— 1,0 |
| Капыльскі, Грэскі р. . | Менскай акр. . . . | „ „ „ | 1—5 |

Як бачым і тут нейкая стракатасьць і хістаньне процанту пашкоджаных расьлін. Больш паражоны бываюць вучасткі каля дарог, пры сенажаці, нізіне.

Характар пашкоджаньня выяўляецца ў тым, што сьцяблы паражоных расьлін перагібаюцца і спыняюць свой рост пры калашэньні. Паражоным бывае сьцябло, часамі колас. Сьцябло колецца па даўжыні. З гэтых азімін высыпаюцца споры грыбка. Ураджаю з такіх расьлін ня бывае зусім.

Пры абмалоце ўраджаю споры сажы прыліпаюць да здаровага насеньня і разам з ім высяваюцца на полі. Тут-жа ў зямлі споры грыбка прарастаюць і заражаюць усходы, каб ізноў на другі год даць мільёны спор.

Заўважана, што ў большай ступені паражаюцца тыя засевы жыта, якія былі высеяны пры няспрыяючым для расьліны надвор'і. Напрыклад, пры халоднай пагодзе прарастаньне насеньня жыта ідзе павольна і, значыць, працягваецца той час, на працягу якога грыбок можа заражаць расьліну.

Сьцябловая сажа жыта.

Цяпер, азнаёміўшыся коратка з жыцьцём грыбка сьцяблавой сажы, скажам некалькі слоў аб спосабах барацьбы з ім.

На першым месцы, вядома, трэба лічыць неабходнасьць карыстаньня насеньнем толькі з здаровых вучасткаў жыта. Тыя-ж вучасткі, якія былі заражонымі, лепш прыбраць і абмалаціць асобна і на насеньне ня браць.

Насенны матар'ял павінен быць добра высьпеўшым. У тым-жа разе, калі даводзіцца карыстацца насеньнем з значна заражоных вучасткаў (3—10%), дык яго лепш пратруціць. Пратручваньне праводзіцца звычайным спосабам, як пратручваецца пшаніца ці авёс. Для гэтай мэты лепш ужываць фармалін. Пры разбаўленьні прадажнага фармаліну 1 : 300 усхожасьць насеньня амаль ня зьніжаецца *). Малое зьніжэньне ўсхожасьці ня так і страшна, бо пры радзейшым высеве другія ўсхожыя расьліны сваім лепшым разьвіцьцём кампэнсуюць густату засева.

Аб неабходнасьці пратручваньня насеньня азімай пшаніцы супроць сьмярдзючай сажы гаварыць ня буду толькі з тэй прычыны, што аб гэтым ужо падрабязна пісалася (гл. „Плуг“ № 2, 1929 г. стар. 15). Без пратручваньня гэта сажа ня толькі зьніжае ўраджай, але і псуе якасьць мукі. Вось чаму насеньне азімай пшаніцы перад засевам трэба заўсёды пратручваць фармалінам ці сінім каменем.

С. Тупяневіч.

# Усе на падрыхтоўку мясцовых с.-г. выставак у „Дзень Ураджаю“.

Сельска-гаспадарчыя выстаўкі даюць вялікую карысьць у справе распаўсюджваньня сельска-гаспадарчых ведаў сярод працоўнага насельніцтва. Наведваючы выстаўкі, сяляне сваімі вачыма бачаць усё тое, аб чым, можа-быць, толькі чыталі і чулі ад другіх. На выстаўцы можна ўбачыць ня толькі лепшыя дасягненьні гаспадаркі, калгасу, але і даведацца, як гэтага дасягнуць самому. Добра наладжаная выстаўка зьяўляецца школай па сельскай гаспадарцы; тут людзі вучацца адзін у другога, дзеляцца сваімі ведамі і вопытамі ня толькі ў гутарцы, але і на справе—паказваючы вынікі свае гаспадаркі.

*) Досьлед ставіўся намачваньнем насеньня жыта на працягу 15 хвілін. Разбаўленьне 1 : 300. Далей зярно прамывалася і сушылася. Усхожасьць была 98%.

Добра арганізаваная с.-г. выстаўка павінна даць наведвальнікам яснае ўяўленьне аб стане сельскае ґаспадаркі дадзенага сельсавету, раёну. Чым больш каштоўна для данага раёну якая-небудзь галіна сельскае гаспадаркі, тым багацей і разнастайна яна павінна быць паказана на выстаўцы.

Патрэбна вылучыць усе гэтыя гаспадаркі (калектыўныя ў першую чаргу), як па правільнасьці арганізацыі гаспадаркі ў цэлым, і паасобныя галіны, якія заслугоўваюць найбольшае ўвагі.

Далей—трэба дадаць поўную магчымасьць селяніну складсьці сабе ўяўленьне аб арганізацыі агранамічнае дапамогі працоўнаму сялянству, аб рабоце сельска-гаспадарчых гурткоў і аб значэньні іх.

Неабходна пазнаёміць сялянства з работаю мясцовае с.-г. каапэрацыі і мерапрыемствамі Савецкае ўлады ў справе палепшаньня сельскае гаспадаркі.



С.-г. выстаўка ў Глуску.

Трэба паказаць сялянам, што ня вера ў „бога“ і малебны дапамагаюць падвышэньню ўраджаю, а агранамічныя веды, ужытыя на практыцы ў гаспадарках.

Вось чаму да выстаўкі трэба рыхтавацца зараз-жа, яшчэ за доўга да яе адчыненьня, і ўсе мясцовыя культурныя сілы павінны самі працаваць і прыцягнуць да ўдзелу ў ёй большы лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і калгасаў. Там дзе ёсьць добры с.-г. гурток, выстаўку арганізаваць будзе ня цяжка. Калі-ж пры хаце-чытальні, або нардоме няма с.-г. гуртка, арганізацыю выстаўкі прыдзецца ўзяць на сябе камсамолу сумесна з актывам сялян, пад кіраўніцтвам агранома і савету хаты-чытальні або нардому.

Выстаўка можа быць і не багатая, але павінна быць наладжана так, каб селяніну-наведвальніку было што паслухаць і чаму навучыцца.

**М. Сеўрук.**

# Лугавы матыль або мяцеліца.

Нядаўна гэты шкоднік зусім нечакана зьявіўся ў аграмаднай колькасьці на тэрыторыі Беларусі. З Гомельскае акругі паведамляюць, што там папсавана лугавым матыльком каля 2.000 дзес. засеву. Гэта прымушае зьвярнуць асаблівую ўвагу сялян як Гомельскай акругі, так і другіх раёнаў, таму што раён распаўсюджваньня лугавога матылька ўсё пашыраецца. Па вестках, якія атрымлівае Станцыя Аховы Расьлін Навукова-Дасьледчага Інстытуту ад сялян корэспандэнтаў, відаць, што шкоднікам захоплены ўжо і раёны суседніх акруг, а іменна: Рагачэўскі р., Бабруйскай акругі, частка Мазырскае акругі. Масавае зьяўленьне гэтага шкодніка нясе вельмі вялікія страты сельскай гаспадарцы, таму сяляне павінны быць падрыхтаваны для барацьбы з ім. Дзеля гэтага трэба ўмець пазнаць шкодніка і ведаць, як з ім змагацца, пры гэтым трэба ведаць, што шкоднік у сваім разьвіцьці з яйца да матылька праходзіць некалькі стадый (яйцо—вусень, лялечка—матылёк), якія адрозьніваюцца адна ад другое па надворнаму выгляду шкодніка і патрабуюць розных мер барацьбы.

Матылёк мае даўжыню цела каля 1 сантымэтра, а шырыня распраўленых крыльляў каля 2 сантымэтраў. Колер крыльляў матылька сьветла-буры, пры чым пярэднія крыльцы сьвятлей за заднія, і маюць дзьве цёмна-бурых палоскі, а таксама рознай велічыні плямкі. Бывае, што плямкі адсутнічаюць. Самец трохі меншы за саміцу.

У розных краінах нашага Саюзу лугавы матылёк выводзіцца некалькі раз. На Беларусі з гэтым шкоднікам спэцыяльных досьледаў ня было, трэба думаць, што ў нашых умовах ён дасьць да 3-х пакаленьняў і магчыма, што трэцяе пакаленьне будзе няпоўнае і па колькасьці будзе трохі меншым за папярэдняе.

Першае пакаленьне матылькоў вылятае ў канцы мая—пачатку чэрвеня, пры чым лёт можа расьцягнуцца на некалькі тыдняў. У выпадку добрых умоў для разьвіцьця, матылёк ляціць у такой вялікай колькасьці, што нагадвае мяцеліцу, чаму лугавога матылька і завуць мяцеліцаю.

Праз некалькі дзён пасьля вылету, саміцы кладуць дробненькія жаўтаватыя яечкі па адным і кучкамі (усяго каля 100 штук і больш) на ніжні бок лісьцяў як дзікіх расьлін—тысячалісьнік, лебяду, шчавель, таксама і на канюшыну, лубін, віку і інш. А праз 5—6 дзён з іх выходзіць вусень.

Як пазнаць вусень лугавога матылька? Дарослая вусень ёсьць цёмназеленавата-жоўты чарвячок даўжынёю да 2-х сантымэтраў. Галава маленькая, чорная, з сьветлымі рыскамі. Уздоўж сьпіны ідзе чорная палоска, паабапал якое з бакоў ідуць жоўтыя палоскі, бакі і ніз брудна-жоўтага колеру.

Гэтая вусень некаторы час жыве на тых расьлінах, дзе і вывелася і бывае спачатку мала прыкметна, што можа і бывае прычынаю таму, што спачатку на яе сяляне не зьвяртаюць належнай увагі. Аднак, праз некаторы час вусень робіцца надзвычайна пражорлівым, паядае ўсё навокал сябе і ў пошуках яды сунецца з аднаго месца на другое, зьнішчаючы ўшчэнт пасьля сябе ўсю зеляніну. Лугі, гароды, сады, пасевы на палёх (канюшына, лубін, віка, проса) маюць пасьля яе находу надзвычайна мізэрны выгляд. Ня любіць яна толькі зярнёвых расьлін, аднак у выпадку недахопу яды паядае таксама і авёс.

Пад канец вусень робіцца надзвычайна рухавай і можа перапаўзаць на вялікую адлегласьць (2—3 кілём.). Вусень жыве ня менш 3-х тыдняў, потым апускаецца з расьліны на зямлю, выкапвае сабе норку на глыбіні да 4 сантым., робіць сабе мяшочак, так зв. „кокан“, адзін канец якога адчынены і там, як кажуць па-навуковаму, заляльваецца.

А ў ліпені—у пачатку жніўня адтуль вылятае матылёк другога пакаленьня, усё жыцьцё якога праходзіць таксама, як і першага. Матылькі трэцяга пакаленьня вылятаюць у верасьні.

Спосабы барацьбы з лугавым матыльком дваякія:

1) папярэджваючыя і 2) зьніштажаючыя.

Аднэй з самых важных і лепшых мер супроць находу вусені лугавога матылька зьяўляецца пракопка ахоўваючых канаў для адмежаваньня вучастка, на якім знаходзіцца вусень, ад тых вучасткаў, якія хочуць захаваць ад яе находу. Капаюць канавы да 12 вяршкоў глыбіні і 8 вяршкоў шырыні. Зямлю пры капаньні канавы складваюць уздоўж края канавы з таго боку, які патрабуе ахові, каб вусеням было цяжэй успаўзаць на яго. На дне канавы капаюць ямкі глыбінёй да 20 сантымэтраў на адлегласьці 2-х мэтраў адна ад другой. У гэтыя ямкі зграбаюць папаўшых у канаву вусеняў і там закапваюць або душаць іх. Гэты мэтад барацьбы, там, дзе зьяўленьне масавага шкодніка застала гаспадара зьнянацку і дзе няма абпырскваценяў для абпырскваньня атрутамі, дае надта добрыя вынікі, пры сваячасовым і організаваным удзеле ўсяго насельніцтва.

К папярэджваючым мерам трэба аднесьці таксама і скашваньне сарнін пасьля кожнага лёту матылёў.

К мерам зьнішчаючага характару належыць абпырскваньне расьлін на вучастку, дзе знаходзіцца вусень, атрутамі, парыскай зеленьню і хлёрыстым барыем. Гэтыя сродкі выпрабаваны і ў адносінах да вусеняў лугавога матыля даюць добрыя вынікі. Абпырскваньне робіцца апаратам-абпырскваценем. Яны бываюць ручныя і конныя. Расьліны, абпырснутыя атрутай, зьядаюцца вусенямі, ад чаго яны і гінуць. Для палявых расьлін трэба браць 800 гр. парыскае зелені і 3200 гр. сьвежагашанае вапны на 40 вёдзер вады. Для расьлін някультурных лугоў, межаў і г. д. бяруць 1200 гр. парыскае зелені і 4800 гр. сьвежагашанае вапны на 40 вёдзер вады. Хлёрыстага барыя бяруць 24 кілёграмы на 40 вёдзер вады.

Пасьля лялькаваньня лугавога матыля ў зямлі, дзе ён і зімуе, трэба зрабіць пераворваньне дзеля таго, каб тых мейсц, дзе наглядалася пашкоджаньне, перавярнуць коканы матыля адкрытым канцом уніз і гэтым перашкодзіць вылету матыля. Узараць трэба таксама і цаліну, дзе найбольш любяць лялькавацца матылі. Для папяраджаньня вылету матылёў першага пакаленьня трэба ўзорваць увосень ці рана вясною а для другога—у канцы чэрвеня ці ў пачатку ліпеня.

Наогул трэба памятаць, што толькі сваячасова прынятыя меры барацьбы і калі гэтыя меры актыўна праводзіць усё насельніцтва, могуць выратаваць пасевы і гэтым самым аберагчы кожнага ад вялікіх страт, якія прыносіць гэты шкоднік.

**К. Ашукіна.**

Навукова-Дасьледчы Інстытут.
Станцыя Аховы Расьлін.




# Пажніўнае лушчэньне—павялічвае ўраджай аўса.

*(З трохгадовае практыкі).*

Чытаючы сельска-гаспадарчыя кнігі, а таксама часопісі „Плуг“ і „Сам сабе аграном“ я знайшоў што: з прымяненьнем пажніўнага лушчэньня можна на многа падвысіць ураджайнасьць поля.

Пачынаючы з 1925 году я вяду досьледы над пажніўным лушчэньнем і сачу за яго ўплывам на ўраджайнасьць. Кожны раз мы робім так: як толькі зжынаем жыта, снапы на полі ня сушым, а адразу возім у гумно і прасушваем у гумне, ці ў азяродзе. Як толькі снапы зьвезены, зараз-жа поле ўзлушчваецца мелка плугам, на глыбіню 2-х вярш. Праз тыдні два поле добра барануецца, а ў верасьні месяцы ўзорваецца на поўную глыбіню ад 3-х да 4-х вяршкоў. І так ральля застаецца ляжаць да самай вясны.

Вясною пасьля баранаваньня поле арэцца плугам на глыбіню $2^1/_2$ вярш. Альбо проста без баранаваньня (па ральлі) пускаецца спрунжыноўка да 3-х вярш. глыбіні і пасьля гэтага сеецца авёс.

Гэтым заканчваецца ўвесь выраб і догляд за глебай.

Вынікі досьледу можна бачыць з наступнага:

| Гады | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | | зерня | саломы |
| Ураджай з дзесяціны ў пудох . | 27 | 42 | 56 | 78 | 102,5 |

У 1928 г. пасеў без веснавога ворыва, пад спрунжыноўку *).

Да 1925 году ўраджай аўса на нашым полі быў у сярэднім ад 24 да 30 пудоў з дзесяціны (гледзячы па месту).

*Што-ж нам дало пажніўнае лушчэньне.* Калі ў 1925 годзе сярэдні ўраджай быў 27 п. з дзес., то праз два гады быў ужо ў 56 пуд.. А праз тры гады ўраджай чуць ня ў тры разы большы—78 пуд.

З гэтага відаць, што ня толькі гной павялічвае ўраджайнасьць, а і добрая апрацоўка поля. На добрай зямлі пры кепскай апрацоўцы карысьці таксама ня будзе.

Да 1925 году поле ў большай частцы ляжала аблогай (кінута, бо нічога не хацела расьці) і было вельмі запушчана, зарасло пустазельлем. За тры гады пры пажніўным лушчэньні і пры асеньняй успашцы папару мы зьнішчылі пустазельле і цяпер поле чыстае.

---

*) Вучот ураджаю саломы рабіўся толькі ў 1928 г.

На пажніўным лушчэньні мы сеялі ня толькі авёс, але і бульбу і ўсю іншую ярыну. Калі ў нас да 1925 году ўраджай бульбы быў 600 пуд. з дзес., то ў мінулым годзе, пры такім-жа ўгнаеньні, але пры раньняй і сваечасовай апрацоўцы і пры пажніўным лушчэньні ўраджай бульбы быў у сярэднім 1.620 пуд. з дзесяціны.

Такім чынам, на працягу трох год я ўпэўніўся, што пры пажніўным лушчэньні мы павялічылі ўраджай у два і нават чуць ня ў тры разы больш у параўнаньні з былым. З гэтага відаць, што ёсьць сэнс цяпер-жа патраціць два-тры дні на апрацоўку поля, але праца гэта акупіцца павялічэньнем ураджаю.

Селянін-дасьледчык **М. А. Казімірчык.**

---

# Разьводзьце „Махнатку“.

У 1927 годзе я ў першы раз спрабаваў пасеў вікі зімкі „Махнаткі“. Лічу неабходным апісаць гісторыю таго вучастку, на якім яе сеяў. Увосень 1925 года я ўзараў кавалак у 100 кв. саж. зусім дрэннай сенажаці, на якім у 1926 годзе быў авёс, а пасьля аўса ў 1927 г. была бульба па палавіннаму навознаму ўгнаеньню*).

Скасіўшы бульбу, сьцягнуў бараной бульбоўнік і 24 верасьня ўзараў, палажыў на гэтых 100 кв. саж. 10 фун. супэрфасфату—18% і 10 фун. калійнай солі—30% і пасеяў „Махнатку“ (мешанка—5 ф. жыта і 10 ф. вікі).

Віка ўзышла дзён на пяць пазьней за жыта. І таму што была пасеяна позна, ня ўруняла добра. Вясной спачатку яна з жыта амаль ня была відна, а калі жыта пачало каласаваць, віка была ўжо роўна з жытам і к канцу красаваньня „Махнатка“ была вышынёю ў два мэтры, а жыта ўжо і каліва нідзе ня было відно, выключаючы дзе-ні-дзе па межах. Закрасавала яна на тыдзень пазьней за жыта. Красавала і расла да самай прыборкі і к часу прыборкі дасягла да 3½ мэтраў вышыні. Скошаная віка на полі ляжала да таго часу пакуль добра высахла.

Ураджаю з 100 кв. саж. аказалася: зярна 2 пуд., а саломы 25 пуд., а на дзесяціну гэта будзе: зерня 48 пуд., а саломы 600 пуд.

Калі ня болей, дык ва ўсякім выпадку не багата і меней яна дала-б дужа добрага сена, калі-б яе скасіў у той час, як яна сама закрасавала. Трэба адзначыць, што віка дала мала зерня і занадта саломы, дык гэта таму, што для яе зямля аказалася дужа тлустай і вядома, што пры такім росьце яна не стаяла, а ляжала, ды апрача таго, занадта буйнае разьвіцьцё,—усё гэта няспрыяла росту насеньня. З усяго гэтага выцякае, што віку на насеньне трэба сеяць на пусьцейшай зямлі.

Селянін **Янка Судак.**

---

# Мой першы досьлед.

Мой першы досьлед з пасевам караньплодаў зроблен у 1928 годзе на плошчы 0,30 гектару. Глеба пад караньплодамі была падзолістая. У 1928 г. тут расла бульба на гнаі. Апрацоўка глебы наступная: рана вясной поле глыбока ўзворана і на яго вывезен гной 7200 кгр. на 0,30 гект. (1650 п. на 1 дзесяціну), раскідан і тэй-жа дзень зораны.

*) Глеба на вучастку—ападзоленая супесь.

Поле так заставалася да пасадкі бульбы. 3 чэрвеня поле было паганяна на барозны адлегласьцю 50—60 снт.

Ад прыродных умоў: познай, студзёнай, дажджлівай вясны і недастачы рабочых рук (у мяне ў гаспадарцы работнікаў—я ды жонка, у якой на руках грудное дзіцё), часткай пасадка расады была зроблена больш рана, ад 3 да 10 чэрвеня, а рэшту пазьней—ад 1 да 7 ліпеня.

Таксама мной былі закладзены дасьледчыя дзялянкі, па розных сартох кораньплодаў, па дасьледаваньню ўплыву розных угнаеньняў і розначасовай пасадкі.

Догляд за расьлінамі быў: барацьба з земляной блыхой, якая накінулася на бручку і турнэпс, матычэньне грэбняў і праворваньне міжрадзьдзяў звычайным асыпнікам. Лісьце да прыборкі не абламлівалася.

З плошчы 0,3 гектараў атрымаў я 800 пудоў кораньплодаў.

Сабекошт пуду кораньплодаў абышоўся ў 3 з лішнім разы таней сабекошту бульбы, наогул у 5 капеек пуд, тады як бульбы ня меней 17 к. пуд, што відаць з табліц:

Выдаткі на 0,3 гектару.

| | Расада і насеньне | Барацьба са шкоднікамі | Пасадка і пасеў | Полка і матыжэньне | Прыборка | Захаваньне | РАЗАМ |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць | | 1 дзень | 8 дзён | 10 людз. 2 коні | 5 дзён | 1 дзень | |
| Коштоўнасьць . | 6 руб. | 1 руб. | 8 руб. | 14 руб. | 5 руб. | 2 руб. | 36 руб. |

Выдаткі на 0,30 гект. зямлі, якая дала 200 пуд. бульбы.

| | Насеньне | Пасадка | Акучваньне | Уборка | Сартаваньне | Захаваньне | УСЯГО |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Колькасьць | 25 п. | 2 людз. 1 конь | 2 людз. 1 конь | 6 людз. 2 к. дні | 2 л. дні | 1 дзень | |
| Коштоўнасьць . | 13 руб. | 4 руб. | 4 руб. | 10 руб. | 2 руб. | 2 руб. | 35 руб. |

Па пасевам кораньплодаў у мяне складалася такое ўражаньне:

Трэба разводзіць сваё насеньне і расаду, якія абыходзяцца таней, а расада акрамя таго лепш прымаецца; не шкадаваць часу на догляд за кораньплодамі, толькі на глыбока пульхнай і без сьмяцьцёвых траў глебе ўраджай будзе добры.

Не зразаць батвы да прыборкі кораньплодаў, бо зразаньне паніжае ўраджай; мець сілос, каб яе скарыстоўваць, бо жывёлай яе зразу ўсю не спажывеш.

Глыбока і акуратна апрацоўваць глебу, даваць даволі ўгнаеньня; акрамя гною ўжываць розныя парашкі, гнаёвую жыжку, попел, салетру для паліўкі, а дзе магчыма і торф.

**П. Лусовіч.**

# ЛЕСНАЯ ГАСПАДАРКА

## Жывыя агарожы.

Жывыя агарожы мала распаўсюджаны ў нас на Беларусі, а між тым яны зьяўляюцца лепшымі агарожамі ўгодзьдзяў, асабліва садоў і гародаў. Абараняючы ўгодзьдзі, як і звычайныя агарожы, ад патраў жывёлай, яны, акрамя гэтага, служаць прытулкамі для мошкаедных птушак, забясьпечваюць часткова глебу ад высыханьня, захоўваюць угодзьдзі ад халодных вятроў, ад заносу сьнегам і г. д. Жывыя агарожы задавальняюць таксама і некаторыя гаспадарчыя патрэбы, напрыклад: драўніна пойдзе на апал, лісьце, гальлё можа служыць подсьцілам, а ў выпадку нястачы, і кормам жывёле; у час красаваньня—даюць добры ўзятак пчолам.



Спэктакль у дзень „Чырвонай арміі" на адкрытай сцэне ў лесе.

Для разводу жывых агарож рэкамэндуецца шмат хмызьняковых і дрэўных парод, але найлепшымі для Беларусі трэба лічыць глог сібірскі (crataegus sanguinea), елку звычайную і жоўтую акацыю. Глог і елка ўтвараюць густыя, шчытныя, амаль што непранікаемыя агарожы. Агарожа з жоўтай акацыі ня так густа, але затое яна разводзіцца лягчэй і хутчэй, з прычыны неперабарлівасьці жоўтай акацыі да глебы і яе хуткага росту. Акрамя таго, жоўтая акацыя прыдатна да ўтварэньня жывой агарожы пасевам, таму што яе насеньне ўсходзіць дружна і скора, тады як елку і глог лепш перасаджваць гатовымі расьлінамі (саджанцамі).

Трэба адзначыць, што саджанцы для жывых агарож павінны мець галінкі з самога нізу стволіку і дзеля гэтага звычайна адно альбо двохгадовыя расьлінкі перасаджваюць з грады, дзе яны ўзышлі, у другое месца, абрэзаўшы іх пры гэтым і разьмясьціўшы больш рэдка.

Саджанцы глогу гадуюцца так: рыхтуецца з добрай зямлі, у некалькі зацянёным месцы, градка, на якой і робіцца досыць густы пасеў насеньня гэтага хмызьняку. Узышоўшыя расьлінкі застаюцца на градзе ад 1 да 2 гадоў, пасьля чаго перасаджваюцца на другую градку, дзе іх разьмяшчаюць на 4—6 вяршкоў адна ад другой. Пры перасадцы расьлін у іх укарачваюцца некалькі і стволік і карэньні, каб выклікаць большы лік бакавых парасткаў. Праз год пасьля перасадкі іх трэба падрэзаць ізноў, а яшчэ праз год яны амаль што заўсёды бываюць гатовы для агарожы, дзеля таго што яны дасягаюць звычайна каля аршыну ў вышыню.

Елка патрабуе некалькі іншых спосабаў. Яна перасаджваецца з насеннай грады на трэці год, без абрэзкі вяршынь і карэньня, і разьмяшчаецца шчытней, уласна, каля 3 вяршкоў дрэўца ад дрэўца. Праз год робяць ізноў перасадку, прычым гэтак, каб дрэўцу было адведзена прыблізна квадратовы фут грады. Тут сеянцы застаюцца гады 3 і толькі тады перасаджваюцца на месца агарожы.

Жоўтая акацыя не патрабуе пераносу ў іншыя грады, а проста скарыстоўваецца пасьля двохгадовага пражываньня ў насеннай градзе для жывой агарожы. Каб усходы яе не цягнуліся дужа ўгору, а разрасталіся больш у бакі, трэба іх прарэдзіцы, калі яны ўзышлі шчытна.

Грады, у якія высяваецца насеньне паказаных вышэй парод, павінны быць добра падрыхтаваны і зараз-жа пасьля пасеву накрыты нятоўстым пластом моху, які пасьля зьяўленьня ўсходаў зграбаецца ў прамежкі паміж радкоў, а потым, калі сеянцы падрастуць і ўмацнеюць, зусім прыбіраецца з грады. На градках трэба ўвесь час зьнішчаць сьмяцьцёвыя травы.

Жывыя агарожы робяцца ў нізкіх мясцох на насыпах, а ў высокіх і сухіх—на роўным месцы. Насыпы павінны мець вышыню прыблізна $^1/_2$—1 арш., пры шырыні зьверху ня менш $1^1/_2$ арш., і адхонныя бакі. Глеба на месцы агарожы павінна быць добра падрыхтавана. Пасадку лепш рабіць увосень, бо вясною можа перашкодзіць сухое надвор'е. Расьліны патрэбна садзіць на тую-ж глыбіню, на якой яны былі ў градзе. Каб агарожа вышла роўнай і не адчувала патрэбы ў падсадцы, трэба падбіраць сеянцы аднолькавай вышыні і таўшчыні, з добра разьвітым карэньнем. Адлегласьць паміж сеянцамі робіцца розная, ад 5 да 12 вяршкоў, у залежнасьці ад пароды і велічыні сеянцаў. Каб мець добрую шчытную агарожу, трэба садзіць расьліны ў 2 альбо 3 рады, прычым так, каб сеянцы розных радоў і прыходзіліся адзін супроць другога, а кожны быў-бы супроць сярэдзіны прамежку другога раду.

Вельмі важна весьці ў далейшым догляд за агарожаю. На працягу першых двох-трох гадоў неабходна абчышчаць глебу пад агарожаю ад зельля і пульхніць яе. У першы час расьлінкі агарожы маюць патрэбу ў падвязваньні к лёгкім поручам.

Пры пасадцы жывой агарожы расьліны абрэзваюцца (карэньні і гальлё) і, акрамя таго, агарожа штогодна павінна падстрыгацца. Стрыжанка робіцца ў позную восень альбо лепш рана ўвесну, да распусканьня пучкоў, тады ў другі раз стрыгуць у канцы чэрвеня. Пры стрыжцы трэба старацца, каб агарожа была к верху вузей.

На маладыя агарожы часта нападаюць мышы і робяць вялікую шкоду, абгрызаючы карэньне. Каб папярэдзіць гэтую шкоду, карысна прытаптаць сьнег вакол і часткова ўнутры агарожы, як гэта робяць садаводы.

Як упаміналася раней, жывыя агарожы можна разводзіць і пасевам. Для гэтага патрэбна хутка-растучая парода, насеньне якой усходзіла-б дружна і шпарка, напрыклад, жоўтая акацыя. У тую-ж восень, у якую зьбіраюць насеньне, рыхтуюць і месца для агарожы, г. зн. спраўна перакапваюць яго, а ўвесну добра пульхняць глебу і сеюць насеньне ў 2—3 рады. Пасьля высеву прыкрываюць пасеў пластом моху, які засьцерагае глебу ад зарастаньня травою і захоўвае яе ад дажджоў, пад уплывам якіх утвараецца шкодная скарынка. У далейшым трэба прарэдзіць усходы настолькі, каб расьліны адстаялі адна ад аднае на 5—6 вяршкоў.

У наступную вясну вяршыні маладых расьлінак абрэзваюцца, прычым пакідаюцца пянькі, вяршкі ў 2—3, а бакавыя парасткі перапляпаюць паміж сабою і прывязваюць да пабудаванай побач лёгкай краткі. Увесну трэцяга году расьліны ізноў падрэзваюцца на 4—5 глазкоў, а з бакавымі парасткамі паступаюць таксама, як і ў першы раз. На чацьверты год расьліны падрэзваюцца ізноў і далей пакідаюцца ў рост; падстрыгаюць толькі вяршыны і бакавыя галіны, каб стварылася непарарыўная сьцяна патрэбнай вышыні.

Ня трэба шкадаваць часу і працы, якія патрачаны на развод жывой агарожы, яна шчыра аддзякуе вам.

**С. Бруеў.**

---

# Саматужнікаў трэба арганізаваць у арцелі.

У вёсках знаходзіцца шмат саматужнікаў-адзіночак: калёсьнікаў, бандароў, па вырабу саней і іншых. Яны робяць шмат самачынных высечак лесу, яны, набыўшы лесарубны білет ад лясьніцтва на некалькі дрэў, карыстаюцца білетам усю зіму. Выпрацоўваюць матар'ял, ухітраючыся даставаць лес незаконным спосабам. Лясной варце цяжка весьці барацьбу з гэтымі шкоднікамі лесу. Самачынная-ж высечка матар'яльнага лесу павялічваецца, а парубшчыкаў цяжка выкрыць. Таму памянёных саматужнікаў неабходна арганізаваць у арцелі і даваць лесаматар'ял толькі для іх, вядома, па вызначанай да гэтага норме. Адзіночкам саматужнікам водпуск лесу спыніць зусім. Такім чынам сялянства ня будзе таптаць лішні абутак, ходзячы паасобку ў лясьніцтва за білетам і будзе эканоміць час. Арцелі магчыма будзе выпрацоўваць буйныя партыі і збываць у каапэратыў, дзе будзе ўстаноўлена сталая цана. Галоўнае-ж, пры арганізаваньні вясковых саматужнікаў у арцелі і будуць зьменшаны самачынныя высечкі. Гэтае мерапрыемства дапаможа правільнаму вядзеньню лясной гаспадаркі. Неабходна зьвярнуць увагу на наша багацьце і шанаваць лес, а за самачынныя высечкі павысіць кару.

Старшыня лясн. камісіі **А. Акшэўскі.**

(Талачынскі раён, Аршаншчына)

---

# Скарыстайце лясныя багацьці.

У нас зараз разгортваецца надзвычайна шпаркімі крокамі новы від сельска-гаспадарчай прамысловасьці, які мае сваёй сыравіннай базай лясныя плады і ягады. Цэлы шэраг арганізацый, як Харчтрэст, Белсельтрэст, Белсельсаюз арганізавалі рад заводаў па тэхнічнай перапрацоўцы садовых прадуктаў, як, напрыклад: заводы пладова-ягаднага вінаробства, пасьцільна-ўварачныя заводы, цэлы рад досыць буйных сушылак. У далейшым, пяцігадовым плянам прадугледжваецца яшчэ большае разьвіцьцё гэтай прамысловасьці.

Зараз існуючыя заводы адчуваюць недахоп у дзікіх ягадах і пладох, якімі, між іншым, так багата Беларусь. Патрэбна толькі належным чынам арганізаваць збор гэтае сыравіны і нашы заводы ня толькі будуць імі забясьпечаны, але будзе значна больш мажлівасьці для разгортваньня экспартных апэрацый.

## Зьбірайце дзічкі-яблыкі.

Асобна прыходзіцца гаварыць аб нашых дзікіх яблыках і ігрушах, паколькі нашы ліствяныя лясы багаты імі. Акрамя таго і пры сядзібах, у многіх мясцох ёсьць лясныя яблыні або ігрушы.

Плады з гэтых дрэў сялянамі, у большасьці выпадкаў, зусім не скарыстоўваюцца:—у крайнім выпадку аддаюцца жывёле. Мільёны пудоў дзікіх пладоў, якія растуць у лесе, гіне марна.

Для тэхнічнай перапрацоўцы гэтыя „дзічкі“ прадстаўляюць сабой каштоўную сыравіну. *Аналітычныя* дадзеныя паказваюць, што нашы культурныя гатункі, як антонаўка, цітаўка, пэпенка маюць у сябе ад 8 да 10% цукру,—„дзічкі“-ж—ад 10 да 11%. А цукар і зьяўляецца самай каштоўнай часткай пладоў.

На практыцы ўстаноўлена, што з дзікіх яблыкаў атрымліваецца добрай якасьці пладовае віно, паста і іншыя віды тэхнічнай перапрацоўкі.

Апрача таго, дзікія яблыкі і ігрушы зьяўляюцца адзінай крыніцай для атрыманьня насеньня пладовых дрэў для садовых гадавальнікаў. І толькі з прычыны неналаджанасьці збора дзікіх яблыкаў прыходзіцца сеяць культурным насеньнем, што ў значнай меры пагаршае якасьці выпускаемых саджанцаў.

Такім чынам збор дзікіх яблыкаў можа забясьпечыць нашы плодавінныя заводы сыравінай (у г. Воршы плодавінны завод Харчтрэсту, у г. Менску завод Менсельпраму, у г. Віцебску завод Белсельсаюзу і г. д.), а перамыўшы выціскі яблыкаў мы атрымліваем насеньне для гадавальнікаў.

Неабходна супольна ўсёй агранамічнай сетцы, усім зямельным работнікам прапрацаваць гэтае пытаньне, прапагандаваць і наладзіць збор і збыт лясных багацьцяў. Толькі ідучы па гэтаму шляху мы вырашым пытаньне аб забясьпечаньні заводаў сыравінай і адначасова ў значнай ступені ўздымем добрабыт працоўнага сялянства.

Аграном-садавод *Ю. Рэвенка.*

г. Ворша,
завод „Спартак“




# Торф, як угнаеньне для садоў.

Пры ўжываньні на ўгнаеньне трэба адрозьніваць мохавы торф ад травянога. Травяны торф больш багаты азотам і мінэральнымі матэрыямі. Сыры торф павінен гады са 2 выветрывацца і перакапвацца што лета.

Пры закладаньні саду галоўная задача складаецца ў тым, каб як мага хутчэй выгнаць маладыя карэньні. Гэта з посьпехам дасягаецца, калі пры пасадцы дрэва паміж карэньнямі і навакол, у пульхную глебу ўнесьці тарфяны парашок. На 1 дрэва бярэцца каля 8—10 кілёгр. сухога торфу. Калі ўзяць большую колькасьць торфу—тым лепей. Перад ужываньнем торф паліваюць вадой да насычэньня. Важна, каб торф, зьмешаны з глебай, быў унесены бліжэй да каранёў. Торф дае цяпло і пульхніць глебу. Торф доўга затрымлівае вільгаць, патрэбную для дрэў. Такім чынам, *цяпло, доступ паветру, вільгаць* найлепшым спосабам адбіваюцца на аднаўленьні карэнчыкаў пладовых дрэў. Торф на больш цяжкіх глебах пасьля дажджу не стварае скарынкі, робіць глебу больш прапушчальнай для паветра і больш цёплай.

Лёгкія глебы ад унясеньня торфу лепш утрымліваюць ваду і робяцца больш зьвязнымі.

Па сваёй якасьці торф бывае розны. Пад Горы-Горкамі (каля ф. „Іванова“ і ў Тужкаўскіх пасёлках) торф залягае на мэргэлёх і таму ён зьяўляецца ня кіслым, вельмі каштоўным. Там верхні чорны пазем можа ў першы год быць скарыстаны ў якасьці ўгнаеньня для саду, гароду і палявых культур.

Наогул вільготны торф неабходна, выкапаўшы, злажыць у кучы, прапластаваць вапнай і пратрымаць гады са 2. Ужываць толькі тады, калі ён выветрыцца і страціць сваю кісласьць.

Садаводы Нямеччыны значную ўвагу зьвяртаюць на торф. У навуковай часопісі „Пладоўніцтва і гародніцтва“ (за 1927 г.) быў зьмешчаны артыкул старога садавода, які рашыў пакінуць у спадчыну бацькаўшчыне (Нямеччыне) вялікую вынаходку: спосаб ужываньня торфу ў маладым садзе. У артыкуле быў зьмешчаны здымак прышчэп з адкапанымі карэньнямі, пад якімі ня было торфу, і прышчэпы, пад якія быў унесен торф.

Вынікі сапраўды дзіўныя: у першым выпадку карэньні голыя, з нязначным лікам дробных карэнчыкаў; у другім выпадку (з торфам)—карэнчыкаў вельмі многа і нібы шапкай ахапляюць усю карнявую сыстэму.

Восенская пасадка прышчэп, ужываньне торфу--дапамагаюць, пры падрэзцы з вясны аднагадовых галін кароны, атрымаць у першае лета значны прырост. Гэтым будзе практычна вырашана досыць складанае пытаньне ўзмацненьня росту маладых прышчэп у садзе.

Папярэднія досьледы з торфам, як угнаеньнем пад маладыя прышчэпы, на Горацкай станцыі далі добрыя вынікі.

Праф. **М. Бурштэйн.**

---

# АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Рэзалюцыя па дакладу тав. Сьмірнова аб бліжэйшых задачах калектывізацыі.

*(На пашыраным прэзыдыуме савету Белкалгассаюзу).*

Заслухаўшы інфармацыю т. Сьмірнова аб Сэсіі Ўсесаюзнага Савету Калгасаў і аб бліжэйшых задачах калектывізацыі, пашыраны Прэзыдыум Савету Белкалгассаюзу цалкам і поўнасьцю адабрае ўсе пастановы Сэсіі і лічыць неабходным, каб гэтыя пастановы ляглі ў падставу пры правядзеньні калгассыстэмай БССР мерапрыемстваў у справе калектывізацыі вёскі на бліжэйшы пэрыяд, дзеля чаго неабходна арганізаваць справу прапрацоўкі пастаноў Сэсіі такім чынам, каб яны былі вядомы як працаўнікам калгассыстэмы, так і шырокім масам калгасьнікаў, а таксама каб усе пляны калгассыстэмы былі пабудаваны на падставе пастаноў Сэсіі.

У ажыцьцяўленьне гэтых пастаноў неабходна ў якасьці першачарговых задач летнявясеньняга пэрыяду г. г. правесьці наступныя мерапрыемствы:

1. Улічваючы вялікае значэньне хлебнай кампаніі ў сэнсе своечасовага забесьпячэньня краіны хлебам, а таксама выкананьня плянаў сацыялістычнага будаўніцтва і адказную ролю ў гэтым калгасаў і калгаснай сыстэмы—лічыць бліжэйшай і галоўнейшай задачай калгаснай сыстэмы, на якую павінна быць зьвернута ўся ўвага калгасьнікаў—іх актыўнасьць і ініцыятыва—гэта правядзеньне хлебанарыхтовак, для ажыцьцяўленьня чаго неабходна правесьці наступнае:

а) ва ўсіх калгасах паставіць на шырокае абгаварэньне калгаснай масы пытаньні аб сваечасовай здачы таварнага збожжа (жыта), прычым канкрэтна павінны быць паказаны колькасьць і тэрмін здачы гэтага збожжа;

б) адначасова ў гэтым напрамку трэба таксама арганізаваць справу здачы максымальнай часткі таварнага збожжа коопэрацыйна-вытворчымі аб'яднаньнямі (машыннымі, мэліарацыйнымі і інш. т-вамі);

в) для пасьпяховага ажыцьцяўленьня гэтых задач Калгассаюзы павінны падрыхтаваць увесь свой інструктарска-агранамічны апарат, правесьці шэраг нарад (інструктарскіх і калгаснага актыву), на якіх дэталёва-абгаварыць і прапрацаваць усе пытаньні, зьвязаныя з хлебанарыхтоўкамі. Апрача таго, прыцягнуць да гэтае справы ўсю партыйную і савецкую грамадзкасьць;

г) 1-га верасьня павінна быць здана калгасамі ня менш паловы вызначанага плянам таварнага збожжа (жыта 12.400 цэнт.), для чаго зараз-жа прыняць меры да сваечасовага забесьпячэньня калгасаў неабходнымі ўборачнымі машынамі і прыладамі, малатаркамі і г. д. Астатняя таварная частка павінна быць здана на працягу верасьня і кастрычніка г. г.

2. Ня менш важнай задачай, якая зараз стаіць перад калгаснай сыстэмай—зьяўляецца правядзеньне вясеньняй пасеўкампаніі, якая павінна прайсьці пад пунктам погляду павялічэньня пасеву азімага кліну (на 64%), правядзеньню аграмінімума, які-б садзейнічаў падвышэньню ўраджайнасьці на 14% і арганізацыйнага ўзмацненьня існаваўшых і асабліва ўноў арганізаваных калгасаў.

У ажыцьцяўленьне гэтага, калгассыстэма павінна зараз-жа, сумесна з земворганамі, а таксама з іншымі спэцыяльнымі відамі с. г. коопэрацыі цалкам забясьпечыць калгасы ўсімі сродкамі вытворчасьці для правядзеньня ўборачнай і асеньняй пасеўкампаніі (крэдыты, насеньне і ў першую чаргу—гатунковае ўгнаеньне, машыны і прылады, іх належны рамонт, цягавая сіла і г. д.), а таксама мабілізаваць увесь агранамічны пэрсанал як калгаснай сыстэмы, так і інш. ведамстваў.

3. Адзначаючы, што цэлы шэраг уноў арганізаваных калгасаў яшчэ ня ўключан у плян земляўпарадкаваньня і што гэтым самым ня выконваюцца дырэктывы партыйных і савецкіх цэнтральныхворганаў, калгассаюзам трэба зараз-жа паставіць пытаньне перад АКРЗА аб тым, каб усе калгасы, арганізаваныя да 1/VI г. г. былі абавязкова земляўпарадкаваны на працягу палявога пэрыяду гэтага году.

Разам з гэтым трэба адзначыць, што дырэктывы Ўраду аб сярэднім разьмеры новых калгасаў ня выконваюцца. У некаторых акругах арганізоўваюцца выключна дробныя калгасы, разьмерам да 100 га. Пагэтаму пры правядзеньні земляўпарадкаваньня трэба вясьці падрыхтоўчую працу па ўзбуйненьню арганізаваўшыхся калгасаў, дзеля чаго неабходна дабівацца прымацаваньня да такіх калгасаў раённымі арганізацыямі адказных партыйных і савецкіх працаўнікоў, а таксама працаўнікоў калгассаюзаў, разгарнуўшы гэтую працу такім чынам, каб дырэктывы ўраду былі выкананы

4. Адзначаючы такое зьявішча, як арганізацыя ў гэтым годзе на Беларусі некалькіх буйных калгасаў у 1000 га і звыш і мае на ўвазе значную складанасьць арганізацыі працы, быту і ўсёй гаспадаркі гэтых буйных калгасаў, неабходна вылучыць апошнія

пад асаблівы сталы нагляд і абслугоўваньне Белкалгассаюзу, забясьпечваючы іх у першую чаргу крэдытамі, сродкамі вытворчасьці і сталым абслугоўваньнем, для чаго ў Белкалгассаюзе і акркалгассаюзах павінен быць вылучан спэцыяльны інструктарскі апарат.

5. Адначасова Калгассаюзы на мясцох зараз-жа праз мясцовыя партыйныя і савецкія арганізацыі і свой інструктарскі апарат павінны разгарнуць працу па арганізацыі новых буйных калгасаў, аб'яднаючых цэлыя вёскі, некалькі пасёлкаў і г. д.

6. Узбуйненьне існаваўшых да 1928 г. калгасаў, хаця і пачалося, але недастаткова. Пагэтаму навакол гэтых калгасаў праца павінна не паслабляцца, а наадварот, пашырацца ў напрамку ўзбуйненьня іх, праводзячы і арганізуючы гэту працу бяз усякага адміністраваньня.

7. У сувязі з масавай цягай адпускнікоў-чырвонаармейцаў да пераходу на калектыўныя формы вядзеньня гаспадаркі, што дае магчымасьць уліць у лік калгасьнікаў значныя масы найбольш сазнацельных, дысцыплініраваных і працаздольных кадраў, неабходна:

а) шырока разгарнуць працу на мясцох па ўцягненьню дэмабілізаваных чырвонаармейцаў у існуючыя калгасы;

б) даваць чырвонаармейцам, уваходзячым у існуючыя калгасы, а таксама арганізуючым новыя калгасы пазачарговае крэдытаваньне на аплату паявых узносаў у калгас;

в) там, дзе ёсьць магчымасьць скарыстаньня зямель запфонду і калфонду—неабходна прыстасаваць гэтую магчымасьць да арганізацыі асобных калгасаў з дэмабілізаваных чырвонаармейцаў, зьвязаўшыся для гэтай мэты з адпаведнымі чырвонаармейскімі часткамі;

г) уноў арганізаваным чырвонаармейскім калгасам даваць у першую чаргу арганізацыйную, агрыкультурна-вытворчую і грашовую дапамогу з тым, каб забясьпечыць нармальнае разьвіцьцё гэтых чырвонаармейскіх калгасаў.

8. З прычыны таго, што ёсьць выпадкі, калі пры арганізацыі новых калгасаў у склад апошніх уваходзіць серадняцкая частка вёскі, а значная частка беднаты не ўцягваецца ў гэты арганізаваны калгас, пагэтаму лічыць, што такое зьявішча атрымоўваецца ў выніку слабага абслугоўваньня беднаты, у сувязі з чым шырока разгарнуць працу сярод беднаты па папулярызацыі ідэі калектывізацыі і большаму ўцягненьню шырокіх бядняцкіх колаў вёскі у калгаснае будаўніцтва. Таксама Калгассаюзам трэба павесьці належную працу сумесна з раённымі, партыйнымі, савецкімі і прафэсіянальнымі арганізацыямі па ўцягненьню батрацтва ў калгасы і па забесьпячэньню яго сродкамі вытворчасьці.

9 Паколькі ў складзе калгасаў, асабліва ўноў арганізаваных, маецца значная частка няпісьменных членаў, неабходна арганізаваць і правясьці праз органы НК асьветы і таварыствы „прэч няпісьменнасьць“ работу па падліку няпісьменных, прыняў меры да большай арганізацыі лікпунтаў у калгасах і прыняў усе захады да таго, каб дырэктывы Ураду і партыі аб ліквідацыі няпісьменнасьці сярод членаў калгасаў былі выкананы поўнасьцю. Калгасным саюзам прыняць меры, каб у іх штаце быў інструктар па культасьветнай працы.

10. Да апошняга часу ўсе калгасы БССР ня маюць арганізацыйна-вытворчых плянаў, што перашкаджае нармальнаму разьвіцьцю гэтых калгасаў, сваечасоваму і неабходнаму забесьпячэньню іх крэдытамі і сродкамі вытворчасьці, а таксама нармальнаму правядзеньню снабжэнчаска-збытавых апэрацый з калгасамі.

Прыняць меры, каб на працягу верасьня—лістападу м-цаў г. г. былі складзены належныя арганізацыйна-вытворчыя пляны для ўсіх калгасаў, у сувязі з чым да гэтай справы неабходна прыцягнуць усіх спэцыялістых с. г-кі, Наркамзему, Калгассаюзаў і інш. каапэрацыйных арганізацый.

11. Да апошняга часу амаль што ўва ўсіх калгасах адсутнічаюць правілы ўнутранага парадку, што таксама перашкаджае нармальнай рабоце гэтых калгасаў.

Неабходна на працягу летня-асеньняга пэрыяду ўвесьці ўва ўсіх калгасах правілы ўнутранага парадку.

Адначасова неабходна павесьці работу па пераводу ўсіх калгасаў на больш рацыянальныя формы арганізацыі працы, правадзя ў першую чаргу аплату працы по нормам выпрацоўкі, ужываючы зьдзельшчыну. Пры гэтым трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на арганізацыю жаночага труда і аплаты яго на аднолькавых умовах пры выкананьні аднолькавай работы.

12. Адзначаючы ненармальнае зьявішча ў сэнсе нерацыянальнага і няпоўнага скарыстаньня калгасамі трактароў, асабліва слабую нагрузку трактароў у дробных калгасах, лічыць неабходным пераглядзець усю справу скарыстаньня трактароў у гаспадарках ня толькі калгасаў, а і ўсіх каапэрацыйна-вытворчых аб'яднаньняў з тым, каб із'яць трактары з тых гаспадарак, у якіх яны ня маюць належнай нагрузкі, прычым няма пэрспэктыў да ўзбуйненьня гэтых гаспадарак у бліжэйшы час.

Усе із'ятыя трактары трэба сканцэнтраваць у спэцыяльныя трактарныя калёны ў больш буйных калгасах з тым, каб яны абслугоўвалі ня толькі калектыўныя гаспадаркі, існуючыя ў раёне дзейнасьці гэтых калён, а таксама ахаплялі-б на дагаворных падставах сельскія гаспадаркі акаляючага насельніцтва, апрацоўваючы апошнім глебу,

работая па ўборцы і абмалоту сялянскага ўраджаю і г. д. і праз гэтае самае ўцягвалі-б большую частку сялянскіх двароў у каляктывы.

13. У тых раёнах, дзе калгассаюзы намячаюць арганізацыю такіх трактарных калён, неабходна разгарнуць сярод акаляючага насельніцтва падрыхтоўчую працу з тым, каб да пачатку работы гэтых трактарных калён насельніцтва было дастаткова падрыхтавача і заключыла-б адпаведныя дагаворы з калгассаюзамі і інш. калгасаб'яднаньнямі па абслугоўваньню іх гаспадарак трактарамі гэтых калён.

14 Ня гледзячы на ролю пабудовы індустрыяльных прадпрыемстваў у калгасах, да апошняга часу ў гэтай галіне зроблена вельмі мала, чаму лічыць неабходным:

а) пашырыць працу па разгортваньню індустрыялізацыі ў калгасах.

б) арганізаваць ў 1929-30 г. тэхнічны апарат пры Белкалгассаюзе і акруговых саюзах калгасаў.

в) распрацаваць пытаньні аб упрашчэньні прахаджэньня тэхнічных праектаў па індустрыялізацыі.

15. Маючы на ўвазе дырэктывы Ураду аб разгортваньню мерапрыемстваў па ільнаводным раёнам, калгассаюзам узмацніць колектывізацыю ў гэтых ільнаводных раёнах.

16. Ня гледзячы на паказаньні дырэктыўных органаў на тое, каб усе віды сельска-гаспадарчай, спажывецкай і саматужна-прамысловай каапэрацыі зьвярталі больш увагі на абслугоўваньне калектыўных гаспадарак, да апошняга часу гэтага абслугоўваньня амаль-што няма (самат.-прам. каапэр.), альбо яно зьяўляецца вельмі недастатковым (спажыўкаапэр. і с.-г. каап.).

Пагэтаму неабходна Белкалгассаюзу распрацаваць мерапрыёмствы з усімі каапэрацыйнымі цэнтрамі як спэцыяльных відаў с.-г. каапэрацыі, так і спажывецкай і саматужна-прамысловай каапэрацыі аб тым, каб на працягу летня-асеньняга пэрыяду г. г. яны распрацавалі-б і пачалі ажыцьцяўляць праз сваю нізавую сетку шэраг практычных мерапрыёмстваў па абслугоўваньню калектыўных гаспадарак БССР.

Спажыўкаапэрацыя павінна больш поўна абслугоўваць і забясьпечваць калгасы спажыўтаварамі; саматужная каапэрацыя павінна распрацаваць мерапрыёмствы па арганізацыі шэрагу падсобных прадпрыёмстваў з тым, каб на апошніх было-б магчыма скарыстоўваць свабодныя працоўныя рукі калгасьнікаў.

Адначасова ўсе гэтыя каапэрацыйныя сыстэмы павінны павесьці сваю працу ў напрамку садзейнічаньня перарастаньню прасьцейшых вытворчых аб'яднаньняў сваёй сеткі ў больш складаныя калектыўныя формы і, наогул, перабудаваць сваю працу ў напрамку большага садзейнічаньня сялянству ў справе калектывізацыі іх гаспадарак.

17. У сувязі з тым, што ў сыстэме калгасаб'яднаньняў ёсьць шэраг калектыўных гаспадарак, якія фактычна ўжо перарасьлі ў вышэйшыя калектыўныя формы, аднак да апошняга часу карыстаюцца і існуюць на падставе статутаў ніжэйшых калектыўных форм, патрэбна акруговым саюзам калгасаў павесьці работу ў напрамку пераводу гэтакіх калгасаў на статут вышэйшых форм.

18. Паколькі актыўнасьць калгасных мас зьяўляецца асноўным момантам, вызначаючым посьпех калгаснага руху і паколькі мэтад сацыялістычнага спаборніцтва зьяўляецца найлепшым мэтадам, садзейнічаючым максымальнай актыўнасьці калгасных мас, для хутчэйшага і больш правільнага выкананьня намечаных задач, неабходна шырока разгарнуць паміж калгасаў сацыялістычнае спаборніцтва.

19. Асноўнымі пытаньнямі, вакол якіх патрэбна разгарнуць сацыялістычнае спаборніцтва зьяўляюцца: бесьперапыннае пасіленьне тэмпу ўзросту калгасаў, узбуйненьне існуючых калгасаў, павялічэньне валавой і таварнай прадукцыі калгасаў, больш лепшая арганізацыя вытворчасьці, узрост агранамічных палепшаньняў гаспадаркі, узмацненьне унутрыкалгаснага накапленьня, павялічэньне агратэхнічнага ўплыву калгасаў на акаляючыя сялянскія гаспадаркі і палепшаньне арганізацыйна-вытворчага і гаспадарча-культурнага абслугоўваньня калгасаў.

20. Спаборніцтва павінна праводзіцца паміж больш-менш эканамічна аднолькавымі калгасамі, калгасамі і саўгасамі, калгасамі і вытворчымі аб'яднаньнямі, калгасамі і вёскамі, пасёлкамі і г. д.

21. Спаборніцтва трэба рабіць ня ўдарнай кампаніяй, а сталым мэтадам, ажыцьцяўляючымся ў штодзённай працы калгасаў.

22. У мэтах больш поўнага абслугоўваньня калгаснай сеткі і ўвядзеньня плянавасьці ў штодзённую работу па калектывізацыі, неабходна, каб кожны інструктар калгассаюзу, кожны кустаграном, распрацоўвалі канкрэтныя і дэталёвыя пляны сваёй працы, з тым, каб поўнасьцю ахапіць усе мерапрыёмствы, якія прадугледжаны плянамі разьвіцьця сельскае гаспадаркі таго ці іншага калгасу.

# За пашырэньне часопісу „Шляхі калактывізацы“.

Пры зацьверджаньні пяцігадовага пляну разьвіцьця Народнае Гаспадаркі XVI Партыйнай Канфэрэнцыяй і XII Партыйным зьездам КПБ(б), а потым IX Усебеларускім зьездам Саветаў, востра пастаўленае пытаньне перабудовы бядняцка-серадняцкай сельскай гаспадаркі з раздробленай, індывідуальнай у гаспадарку буйную, каляктыўную. Дапаможнікам у пасьпяховай перабудове сельскай гаспадаркі зьяўляецца пэрыядычны сельска-гаспадарчы друк. Дасягненьні ў галіне сельскай гаспадаркі, а таксама і дрэнныя бакі, якія маюць месца ў нашай практычнай працы, праз друк становяцца вядомымі ўсім працоўным. Таму ўдзел у высьвятленьні гэтых добрых і адмоўных бакоў павінны прымаць усе працоўныя масы. Тады своечасова будуць пашырацца добрыя бакі сельскай гаспадаркі і выжывацца дрэнныя.

Пэрыодычным выданьнем у БССР, дапаможнікам у перабудове сельскай гаспадаркі павінен зьявіцца новы часопіс „Шляхі Каляктывізацы“, які выдаецца замест ранейшага часопісу „Плуг“. Замена часопісу „Плуг“ часопісам „Шляхі Каляктывізацыі“ выклікала само жыцьцё,— той напрамак працы, што зараз праводзіцца на вёсцы. Часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ будзе адбіваць усё жыцьцё і працу нашых каляктыўных гаспадарак і несьці туды дапарады лепшага наладжваньня гаспадаркі.

*Часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ павінен быць настольнай кнігай кожнай каляктыўнай гаспадаркі і аграпрацаўніка.*

Але часопіс будзе абслугоўваць ня толькі каляктыўныя гаспадаркі, а і індывідуальнае сялянства. *Часопіс „Шляхі Каляктывізацыі“ будзе мець у сябе аддзелы, якія адбіваюць усё жыцьцё сучаснай сельскай гаспадаркі, як калектыўнай так і індывідуальнай.* Гэтымі аддзеламі ў часопісу павінны кіраваць спэцыялістыя па сельскай гаспадарцы, а прымаць удзел у запаўненьні гэтых аддзелаў парадамі ўсе навуковыя сілы БССР.

Патрэбна, каб гэты часопіс быў масавым, каб ня было ніводнай каляктыўнай гаспадаркі, якая-б яго ня выпісвала. Трэба дабіцца, каб гэты часопіс меў тыраж ня 2.500 экз., які мае да гэтага часу часопіс „Плуг“, а мінімум 50.000 экз. Не павінна быць ніводнай установы на вёсцы, якая-б сама ня выпісвала часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“ і не зьяўлялася распаўсюджвацелем яго ў гушчы індывідуальнага сялянства. *У гэтай справе павінны адыграць вялікую ролю нашы школы, хаты-чытальні, сельсаветы і каляктыўныя гаспадаркі.* Яны павінны зьяўляцца ўпаўнаважанымі па распаўсюджваньню часопісу сярод сялянства, бо, як вядома, без падняцьця агранамічнай пісьменнасьці сярод каляктыўных гаспадарак і індывідуальнага сялянства, нельга будзе падняць і перабудаваць сельскую гаспадарку.

Выходзячы з гэтага,—*усім кіраўнікам установаў, а таксама і ўсім культасьветным установаи трэба правесьці растлумачальныя кампаніі сярод сялянства з мэтай папулярызацыі гэтага часопісу і прасоўваньня яго ў гушчы сялян.* Да канца пяцігодкі трэба дабіцца таго, каб на кожных пяць гаспадарак прыходзіўся адзін экзэмпляр часопісу. *Усе с. г. гурткі павінны прыняць удзел у распаўсюджваньні гэтага часопісу, а ў першую чаргу выпісаць самім. З боку НКА, а таксама і Акрінспэктарыяту трэба дабіцца таго, каб забясьпечыць гэтым часопісам усе культ. і палітустановы і каб усе культ. і паліт. працаўнікі прынялі актыўны ўдзел у распаўсюджваньні яго.*

Настаўніцтвам павінна быць пастаўлена арганізацыйная праца так, каб спачатку навучальнага году ўсе вучні зьяўляліся зборшчыкамі падпіскі на гэты часопіс. Тады, калі ўсе нашы кіруючыя ўстановы і ўся наша грамадзкасьць прыме актыўны ўдзел у прасоўваньні с.-г. літаратуры ў масы сялянства, мы дапаможам правядзенью пяцігадовага пляну па перабудове сельскай гаспадаркі, а з гэтым дапаможам і ўздыму ўраджайнасьці, як галоўнай часткі выкананьня пяцігадовага пляну.

Сацыялістычнае спаборніцтва, якое разгортваецца ва ўсю шырыню па фабрыках, заводах і розных установах, павінна мець месца і ў прасоўваньні кнігі ў масы сялянства, асабліва с.-г. кнігі, якое яшчэ няма ў сялянства і якая марудна да гэтага часу прасоўвалася. *Зачыншчыкамі ў сацыялістычным спаборніцтве па прасоўваньню кнігі ў масы павінны стаць на чале, у першую чаргу, партыйныя і камсамольскія арганізацыі на вёсцы і калялктыўныя гаспадаркі,* уцягваючы ў гэту справу ўсе вясковыя ўстановы і вясковую інтэлігенцыю. Тады, калі гэта будзе прароблена, можна будзе спадзявацца, што мы атрымаем тыя вынікі, якія патрэбны для правядзеньня пяцігадовага пляну. Наш заклік—*ніводнай партыйнай, камсамольскай арганізацыі, калякгыўнай гаспадаркі, установы і ніводнага сумленнага грамадзяніна, якія-б ня прымалі ўдзелу ў сацыялістычным спаборніцтве па распаўсюджваньню сярод сялянства часопісу „Шляхі Каляктывізацыі“.*

**У. Воўк-Левановіч.**

---

# Хроніка па сельскай і лясной гаспадарцы.

## Лесамэліарацыйныя і лесакультурныя работы ў 1928-29 г. ў Гомельшчыне.

Увесну г. г. ў Гомельскай акрузе вытварана лесамэліарацыйных работ—па замацаваньню і залясеньню пяскоў на сялянскіх землях на агульнай плошчы ў 1719 гектар.

Работы ажыцьцёўлены шляхам самадзейнасьці самога насельніцтва. Усяго на гэтыя работы было затрачана да 5000 конных і 15000 пешых рабочых дзён. Праца праводзілася пад тэхнічным кіраваньнем і нагляданьнем спэцыялістых-лесамэліаратараў АКРЗА.

Па паасобных раёнах работы разьмяркоўваюцца гэтак: па Лоеўскаму—922 гект., Камарынскаму—475, Уваравіцкаму—139, Гомельскаму—65, Веткаўскаму—47, Чачэрскаму—31, Брагінскаму—25 і Хойніцкаму—15.

Разам з работамі, праведзенымі ўвосень 1928 г., якіх выканана на плошчы 821 гект., агульная плошча лесамэліарацыйных работ па акрузе за гэты 1928-29 апэрацыйны год раўна 2540 гект. У ліку выкананых работ новых лесамэліарацыйных культур—2281 гект., што складае 193% выкананьня заданьня Наркамзему (яно было дадзена па акрузе ў 1180 гект.) і перавышае разьмер работ папярэдняга году ў $3^1/_2$ разы.

Лесакультурных работ у лясьніцтвах акругі выканана за гэты год на плошчы 3850 гект., г. зн. з перавышэньнем заданьня НКЗ на 3% і больш у 2 разы, чым было зроблена ў папярэднім годзе.

Інспэктар Лясоў **А. Пятровіч.**

Адк. рэд. **П. Рачыцкі.** Рэдактар—**Рэдкалегія.**

ЦАНА 20 КАП.